ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА МАСТАЦТВА

12 лістапада 1993г  № 45 (3715)  Кошт 30 руб.

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

***«East View Publications» падпіша на «ЛіМ» у любой краіне свету.***

СТАРОНКА 3

## КУДЫ МЫ ПЛЫВЁМ?

***Васіль АЎРАМЕНКА: «Камуністычны «рэнесанс» на самай справе ёсць чарговы і, відаць, не апошні выбрык чырвона-імперскага монстра, які трымае ў палоне нямала людскіх душ. Разбураны вонкавыя прыкметы імперыі, знікаюць яе інстытуты, знішчаюцца ідэалы, а многія з нас жадаюць назад — у той час, які некаму здаецца ледзь не залатым векам».***

СТАРОНКА 5

## «ДУМАЙЦЕ ПРА ГІСТОРЫЮ, ДБАЙЦЕ ПРА ГЕАГРАФІЮ»

***Вершы Максіма ЛУЖАНІНА «з розных блакнотаў».***

СТАРОНКА 8

## ДВА ГАДЫ ДА ВЯСНЫ

***Апавяданне Марыі ВАЙЦЯШОНАК.***

СТАРОНКА 9

## ВАРЫЯНТ, ВАРТЫ ЎВАГІ

***І зноў пра Дзяржаўны гімн. Думка прафесіянала — спевака Віктара СКАРАБАГАТАВА.***

СТАРОНКІ 10—11

## МЕЛЬПАМЕНА І АДРАДЖЭННЕ

***Напярэдадні Усебеларускай тэатральнай канферэнцыі.***

СТАРОНКІ 10—11








**Увечары — заключны канцэрт III Міжнароднага фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы», пад знакам якога ўсю гэтую дэкаду праходзіла музычнае жыццё сталіцы. Ёсць пра што пагаварыць удзельнікам, гасцям, наведнікам адметнай мастацкай імпрэзы. Будзе пра што згадаць і на лімаўскіх старонках. А пакуль — удзячнасць і захапленне! Менавіта гэтага, пры мажлівых «але», вартыя ініцыятары, арганізатары і выканаўцы міжнароднай культурнай акцыі, асабліва выбітнай на фоне нашага антыкультурнага штодзённага існавання. Угледзьцеся ў здымкі Віктара Стралкоўскага /на іх — фінская піяністка Мая ТЭЙКАРЫ, прэзідэнт Польскай секцыі Міжнароднага таварыства сучаснай музыкі Зыгмунд КРАУЗЭ, беларускі ансамбль салістаў «КЛАСІК-АВАНГАРД»/. І пераканайцеся, што разам з музыкай жыве і стваральны чысты дух, які натхняе чалавека незалежна ад эканамічнага ці палітычнага «надвор'я». Парадуемся гэтаму.**

**С. Б.**

# І РАЗ НЕДАВЕР, І ДВА НЕДАВЕР...

14 сакавіка 1992 года лідэры дэмакратычных партый і рухаў падпісалі Антыкрызіснае пагадненне на выпадак пагрозы суверэнітэту Беларусі. Пад дакументам ёсць подпіс і Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. А старшынёю камітэта быў тады абраны Вячаслаў Кебіч.

Прайшоў час, і высветлілася, што В. Кебіч мае вельмі своеасаблівае ўяўленне аб незалежнасці краіны. На ягоную думку, «рублёвая зона» замест нацыянальнай валюты і ўдзел у сістэме «коллективной безопасности» замест абвешчанага нейтралітэту — гэта менавіта тое, чаго прагне беларускі народ, тое, што ўмацуе нашу дзяржаўнасць.

5 лістапада адбылося пазачарговае пасяджэнне Антыкрызіснага камітэта, на якім прадстаўнікі 39 арганізацый аднадушна выказаліся за пазбаўленне В. Кебіча пасады старшыні.

Гэта Вячаслаў Францавіч, трэба думаць, неяк перажыве. Але ж і на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета разпораз узнікае пытанне аб недаверы яму ўжо як Старшыні Савета Міністраў. Тут спадару прэм'ер-міністру даводзіцца, пэўна, нервавацца.

На пасяджэнні АК прыняты заявы «Аб неабходнасці самастойнай эканамічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь» і «Аб патрыятычным выхаванні ў грамадстве».

**П. В.**

# МАГІЛЁЎСКІ САЛОН

Літаратурна-музычны салон распачаў працу ў Магілёве. Заснавалі яго Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ды маладзёжная суполка «Машэка» пры ўдзеле магілёўскай філіі БНФ. Першая вечарына была прысвечаная святу «Дзяды». Ва ўтульнай кавярні гарадскога Дома культуры гучалі вершы й проза, словы знакамітых людзей Беларусі ўсіх часоў. За святочным сталом з куццёй ды іншымі беларускімі стравамі сабраліся і людзі сталага веку, і моладзь. Гучалі беларускія канты ў выкананні ансамбля з Магілёўскага педінстытута, спявалі таксама барды Ігар Мухін-Рабянок ды Сяргей Кулягін.

**Юрась ПІВУНОЎ**

*г. Магілёў*

# ТРАГІЧНАЕ МЕСЦА — ЛАЗОЎКА

Кажуць, калісьці на вуліцах Полацка можна было даволі часта пачуць яўрэйскую гамонку. Да вайны. Тады, калі ў Полацку была яўрэйская школа, калі там-сям чуліся яўрэйскія песні. А вайной за Полацкам было гета, трохі збоч, ля вёскі Лазоўка — месца расстрэлу яўрэяў. Усяго ў гета ўтрымлівалася каля 8 тысяч чалавек, 7 тысяч было расстраляна.

Змоўклі песні. Сціхла гамонка. Цэлых паўстагоддзя маўчалі. І вось зімой гэтага года ў Полацку быў створаны яўрэйскі культурны цэнтр. Назва сама гаворыць аб задачах гэтага аб'яднання. Ці зможа яно дапамагчы людзям адрадзіць іх звычаі, традыцыі, мову — пакажа час. Пакуль жа сярод удзельнікаў цэнтра чуецца толькі ... руская мова.

Зробленыя першыя крокі па ўвекавечанні памяці нявінна забітых: на месцы масавых расстрэлаў устаноўлены памятны знак, які ў будучым плануецца замяніць на помнік ахвярам генацыду. На жалобным сходзе, прысвечаным памяці ахвяр, які адбыўся ў Полацкім гарсавеце, людзі дзяліліся перажытым, набалелым, успаміналі сваякоў, сяброў, знаёмых, якія загінулі ў гета, на жорсткіх пуцявінах вайны. Гарэлі свечкі. Шчымліва гучала скрыпка. Плакалі людзі.

**І. СТУДЗЕНЬСКАЯ**



# АКРЫЯЛІ...

Пасля крывавых падзей у Маскве, калі ў СНД стала на адзін Вярхоўны Савет меней, нашы, мясцовыя камуністы некаторы час сядзелі ціха — чакалі, што будзе. Ды неўзабаве акрыялі...

7 лістапада дэманстрацыяй і мітынгам прыхільнікі ўчарашняга дня адзначылі чарговую гадавіну кастрычніка 1917 года.

У той жа дзень пенсіянерывайскоўцы мітынгавалі каля Дома афіцэраў, патрабуючы захаваць прывілеі ў пенсійным забеспячэнні. Цікава, што «господа офицеры», сярод якіх шмат прыхільнікаў генерала Макашова, членаў «Всесоюзного союза офицеров» /экстрэмісцкай арганізацыі, што брала ўдзел у штурме Астанкіна і маскоўскай мэрыі/, чагосьці патрабуюць ад дзяржавы, суверэнітэту якой адкрыта не прызнаюць.

**В. БОГУШ**

# НАЎЗДАГОН КАСТРЫЧНІЦКІМ УГОДКАМ

У дзяцінстве, памятаю, мы гулялі ў вельмі страшную гісторыю пра чорны-чорны горад, у якім на чорнай-чорнай вуліцы быў чорны-чорны дом, а ў гэтым чорным-чорным доме быў пакой, таксама чорнычорны, а ў пакоі шафа, а ў той шафе... чорны-чорны кот. Здаецца, так? Гульня наладжвалася перад сном, калі старэйшыя загадвалі тушыць святло, і дзеці пачыналі выпрабоўваць сваю смеласць, наганяючы як мага болей страху на саміх сябе.

Бывала, што дарослыя таксама падключаліся, тады было яшчэ страшней.

Але былі ў дарослых гульні самастойныя, без нас. Пра тыя гульні мы ўсё больш і больш даведваемся сёння. Вось адна з іх, знойдзеная мною ў фондах колішняга партархіва беларускага ЦК, — пра чорны-чорны дзень з жыцця рэдакцыі газеты «ЛіМ» у чорным-чорным 1936 годзе.

Цэлае дасье на «ЛіМ». А ў тым дасье ў адным з аглядаў падраздзельчык з чорным-чорным загаловачкам: «Контррэвалюцыйны выпад у нумары за 7 лістапада». Пачынаецца крыху здаля: «У жніўні месяцы «ЛіМ» друкуе рэдакцыйны артыкул /N 48, 17 жніўня/ «Узмацніць палітычную пільнасць у літаратуры». У гэтым артыкуле рэдакцыя заклікае ўсіх і ўся зрабіць неабходныя ўрокі з ганебнага факта допуску антысавецкіх «памылак друку» пры перакладзе і перадрукаванні твораў Маякоўскага /у артыкуле Краснеўскага, апублікаванага ў журнале «Полымя рэвалюцыі» N 5/.

Сама ж рэдакцыя, як гэта відаць з наступных нумароў газеты, ніякіх высноў для сябе з свайго-ж артыкула не зрабіла. Неахайнасць у палітычных фармулёўках у артыкулах, змяшчаемых у «ЛіМе» — бясспрэчны факт.

А 7 лістапада /**кастрычніцкі святочны нумар! — Г. К.**/ у артыкуле «Сталін у беларускай паэзіі» газета друкуе наступны контррэвалюцыйны абзац: «У вершы падаюцца яркія радкі аб цяжкім і бяспраўным жыцці нашага народу, паэт гаворыць з захапленнем і падкрэслівае, што гэтае жыццё забяспечыў мудры Сталін».

Артыкул з гэтым абзацам быў дан аўтарам /Куніцкім/ і ў такімжа выглядзе «выпраўлен» загадчыкам аддзела /Мікулічам/, прапушчан стыльрэдактарам /Багуном/, рэдактурай /Модэлем/ і надрукован у газеце, не гледзячы на тое, што перад выхадам нумару у свет яго чытаў і візіраваў рэдактар тав. Гурскі.

Між іншым, кіраўніцтва рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» аб зробленай у газеце контррэвалюцыі даведалася апошнім».

Вось і ўсё.
Умелі ж людзі працаваць.
А што цяпер?
Не тыя ўмовы...

**Выпісаў з архіва /НАРБ, ф. 4 в. 16 с. 125 л. 24/**
**Г. КОЛАС**

Падпіска-94

# «У «ЛіМа» ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕ СВОЙ ЧЫТАЧ»

Валерый МАСЛЮК, мастацкі кіраўнік і дырэктар Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа:



— «ЛіМ» для мяне самая цікавая газета, бо тыя навіны, якія застаюцца па-за інфармацыяй у іншых газетах, у «ЛіМе» заўсёды ёсць, а навіны гэтыя — па мастацтве ў шырокім сэнсе гэтага слова. Прываблівае разнастайнасць думак аўтараў. Я цалкам далучаюся да ўсіх добрых слоў, сказаных у адрас «ЛіМа» маімі папярэднікамі ў рубрыцы «Падпіска-94».

Але пры ўсім тым «ЛіМ», як мне здаецца, губляе на тым, што шмат газетнай плошчы аддае вялікім матэрыялам. Ён пачынае ператварацца ў акадэмічнае выданне. Больш трэба цеплыні, чалавечнасці ў некаторых публікацыях. Больш кароткіх, выбуховых выступленняў, за якімі чуўся б крык душы чалавечай.

Тым не менш, у «ЛіМа» заўсёды будзе свой чытач, у тым ліку і я.

Міхаіл КАЗІНЕЦ, народны артыст Рэспублікі Беларусь, рэктар Беларускай акадэміі музыкі:



— «ЛіМ» я чытаю з таго часу, як усвядоміў сябе як асобу, як зразумеў, што музыка стане маім жыццём. Яшчэ калі вучыўся ў музычным вучылішчы, у 1957—58-ых гадах, купляў газету ў кіёсках. А потым, калі паступіў у кансерваторыю, і па сённяшні дзень выпісваю «ЛіМ».

Гэта газета лепшым чынам выхоўвала мяне, натхняла, давала інфармацыю, без якой мне было б цяжка як прафесіяналу, найперш інфармацыю пра музычнае жыццё рэспублікі.

У перабудовачны перыяд «ЛіМ» стаў першай дэмакратычнай газетай, якая смела і праўдзіва гаварыла пра палітычнае і эканамічнае становішча ў рэспубліцы. Сваімі публікацыямі ён і разбудзіў новага чытача, нацыянальна свядомага, аддана, якому неабыякавы лёс Бацькаўшчыны.

Але я хачу гаварыць пра «ЛіМ» са сваёй «званіцы». Пра яго музычныя старонкі. Па іх можна пісаць гісторыю музычнага мастацтва Беларусі. Возьмем, да прыкладу, аркестр народных інструментаў імя Жыновіча /што для мяне асабліва дорага/: яго рэпертуар, пошукі, сталенне — пра ўсё гэта знойдзеш у «ЛіМе». Ды і не толькі пра гэты калектыў. Я адчуваю асабістую любоў да «ЛіМа». На сённяшні дзень — гэта вельмі цікавая, глыбокая, сур'ёзная, прафесійная газета.

# БУДЗЬМА РАЗАМ!

## ДА НАШЫХ ПРЫХІЛЬНІКАЎ У ДАЛЁКІМ ЗАМЕЖЖЫ

Доўгі час у адказ на пытанні нашых замежных суайчыннікаў, — як жа падпісацца на «ЛіМ», напрыклад, у ЗША, Польшчы ці Германіі, — мы вымушаны былі, што называецца, разводзіць рукамі.

Сёння ж рэдакцыя мае магчымасць паведаміць хоць нешта пэўнае тым сваім чытачам, для якіх «ЛіМ» з'яўляецца адной з ніткачак, што звязваюць іх з Бацькаўшчынай.

Падпісацца на тыднёвік «Літаратура і мастацтва» ў ЗША, Заходняй Еўропе, іншых краінах свету можна праз фірму **«East View Publications»**, якая займаецца распаўсюджаннем газет, часопісаў і кніг, што выдаюцца ў новых незалежных дзяржавах — былых рэспубліках СССР. Пра аўтарытэт фірмы сведчыць хоць бы той факт, што перыёдыка і кнігі з Беларусі, Украіны, Расіі для Бібліятэкі Кангрэса ЗША пастаўляе менавіта «East View Publications».

Падаём яе адрас:

**East View Publications, Inc**
**3020 Harbor Lane North, Minneapolis, MN 55447, USA**
**E-mail: eastviewOmr.net**
**Toll-free in USA: 1—800—477-1005**

# КАБ БЯДЫ НЕ НАРАБІЦЬ

**Я газет чытаю болей,**
**Людзі пішуць шмат аб чым,**
**Бо нарэшце маюць волю,**
**Час іх праўдзе навучыў.**

**Праўда, правілаў не знаюць**
**У палітыцы гульні,**
**Часам мудра разважаюць,**
**А як прыйдзецца — як пні.**

**Выглядаюць, сочаць пільна,**
**Каб бяды не нарабіць.**
**І да партыі прыхільна**
**Зазіраюць — трэба ж жыць.**

**Але стала партый многа.**
**А якая з іх правей?**
**Не даюць пакуль нічога,**
**Гол народ, як верабей.**

**А я так сабе мяркую:**
**Трэба выбраць найхутчэй —**
**Толькі ж, пэўна, ўжо не тую,**
**Што абкрадвала людзей.**

**Паўлюк ДРАГУН,**
**пенсіянер**

*г. Слуцк*

Культура

# ПОМНІК СТАІЦЬ У ЛІДЗЕ...



Плённа працуе малады скульптар Валеры Янушкевіч — стварыў шэраг вялікіх і камерных кампазіцый, барэльефаў, мемарыяльных шыльдаў. Помнік А. Міцкевічу яго работы стаіць у Навагрудку. Улетку адбылося адкрыццё помніка Ф. Скарыну ў Лідзе /«ЛіМ» распавядаў пра гэту цырымонію, якая праходзіла падчас свята горада/.

На здымку А. КРАЎЦЭВІЧА — помнік выдатнаму беларускаму дзеячу. Можна толькі падзякаваць лідскай грамадскасці, якая знайшла сродкі на стварэнне і ўстаноўку помніка. На жаль, мы дагэтуль не дачакаліся такой падзеі ў Мінску, бо ў сталічных чыноўнікаў не «дайшлі рукі» да выдзялення сродкаў на помнік нашаму першадрукару.

З пошты "ЛіМа"

# ХТО СЕЕ ВЕЦЕР...

Я ведаю, што «ЛіМ» знаходзіцца пад пільным наглядам сакратара ЦК ПКБ таварыша Чыкіна. Няма нумара яго газеткі «Мы и время», дзе б ён не лягнуў газету беларускай творчай інтэлігенцыі. Прычым лягае Чыкін па-чыкінску: вяршкамі, якія не надрукавала б ніводная газета з-за іх нізкага літаратурнага ўзроўню, не кажучы ўжо пра сэнс. Калі ў «паэтаў» Чыкіна слова «эліта» асацыіруецца толькі са словам «ваніты» — мусіць, праўду піша «Свабода», што тав. Чыкін любіць перабіраць — аж да ванітаў.

Маючы надзею, што тав. Чыкін і надалей будзе зорка сачыць за надрукаваным у «ЛіМе», я звяртаюся да вас з запытам, адказ на які павінен бы даць тав. Чыкін у сваёй газетцы.

А не дае спакою мне наступнае пытанне: чаму гэта камуністы, якія ніколі за 75 год свайго праўлення не выконвалі канстытуцыі, апошнім часам сталі такімі барацьбітамі за захаванне кожнай яе літары? Але ж робяць гэта, так бы мовіць, «выбарачна», калі ім гэта выгадна.

Вось і ў апошнім нумары «Мы и время» /N 36/ «сведка» апошніх падзей у Маскве, першы сакратар ЦК расійскага камсамола Ігар Маляроў дае такія «паказанні» Чыкіну: «Не Верховный Совет, а Ельцин нарушил конституцию 21 сентября 1993 года, поставив себя вне закона». А чаму не паставіў у свой час сябе «вне закона» генсек Брэжнеў, які пачаў цкаванне Сахарава і Салжаніцына за іх погляды? Хіба тады канстытуцыя не прадугледжвала права на ўласныя погляды? Ці свабоды сумлення? А, між тым, баптыстаў, пяцідзесятнікаў, іегавістаў судзілі пачкамі. Ведаю, што ў Брэсце забіралі Біблії ў замежных турыстаў, якія ехалі ў турысцкае турнэ па СССР. Што Біблії адбіралі і знішчалі, мы маглі прачытаць у той самай газеце ЦК КПБ «Советская Белоруссия», але там мы не ўбачым пратэстаў таварыша Чыкіна супраць падобных парушэнняў канстытуцыі. А ён быў тады не маленькай сошкай у той сістэме, яго зварот аб захаванні і выкананні канстытуцыі надрукавалі б. Альбо яшчэ лепшы прыклад. Сёння тав. Чыкін выдае апазіцыйную газетку, якая выступае супраць дзяржаўных сімвалаў, урада, Старшыні ВС С.С.Шушкевіча. Мо гэты кіраўнік ПКБ назаве апазіцыйнае выданне падчас яго кіравання гаркомам партыі? А тады ж у канстытуцыі былі артыкулы аб свабодзе слова і аб свабодзе друку. Уяўляю, як бы рэагаваў В. Чыкін на з'яўленне газеты, якая б выступала супраць КПБ. Зараз жа ён за апазіцыйны друк, за практычнае выкананне ўсіх артыкулаў канстытуцыі. Гэта дазваляе яму выдаваць свой лісток, нападаць на Шушкевіча, калі раней перад тым жа Машэравым ліслівa гнуў спіну. Вось такога двайнога стандарту ён трымаецца.

Дарэчы, як захоўваюць камуністы канстытуцыю, мы можам бачыць і зараз у забароне святкавання ўгодкаў беларускай воінскай славы і, у прыязным стаўленні да 75-х угодкаў камсамола, які на пачатку кастрычніка ў Маскве выступаў са зброяй супраць усенародна выбранага прэзідэнта Расіі поплеч з фашыстамі. Нарэшце прадэманстравалі камуністы еднасць сярпа і молата са свастыкай. А еднасць гэтая была відавочнай яшчэ раней, у 1939 годзе, калі ў Брэсце разам маршыравалі войскі-пераможцы: адны са свастыкай на рукавах, другія з чырвонымі зоркамі на фуражках.

У сувязі з усім гэтым я вельмі здзіўлены выказваннем кіраўніка грамадскага аб'яднання «Полісьсе» Міколы Шаляговіча ў газеце «Звязда» за 6 кастрычніка г.г.: «Я з жахам убачыў у «Народнай газеце» загаловак «Камуна-фашысцкі мяцеж праваліўся». Які ж камунафашысцкі, калі рускі рускага забіваў, брат брата». Ну, вось, чалавек так старанна вывучаў гісторыю, каб даказаць, што палешукі — гэта не беларусы, а з навейшай гісторыі не ведае, што правадыр камуністаў Ленін заклікаў пературыць імперыялістычную вайну ў грамадзянскую.

Бальшавікі заўсёды прыходзілі да ўлады на штыках і хлусні, спадар Шаляговіч! І гэта была спроба /у Маскве/ чарговай кастрычніцкай рэвалюцыі, да якой нядаўна, летам гэтага года, заклікала Ніна Андрэева, сакратар ВКП/б/ /глядзі газету «Наш компас» з яе дакладам/. Дык вось, чарговая кастрычніцкая рэвалюцыя не ўдалася, спадар Шаляговіч, а рускія рускіх забівалі па загадзе Леніна не два дні, як у 1993 годзе, а некалькі гадоў, і гінулі не сотні чалавек, а сотні тысяч, а мо мільёны. Калі б камуністычны путч удаўся, вы б сказалі, што рэвалюцый без страт не бывае і свой, так званы «народны рух Беларусі», сустаршынёй якога вы з'яўляецеся, хутка перайменавалі б у пралетарскі рух СССР. Вось за якую няўдачу вы перажываеце, а не за тое, што забіваў брат брата. За гэта больш перажываюць сапраўдныя дэмакраты, якія заявілі, што пераможцаў у гэтай схватцы не было.

Таварыш Чыкін напісаў у «Мы и время» наступнае: «Впервые после кровавого подавления революции 1905 года артиллерия русской армии расстреливала русских людей». Не ведаю, ці выкарыстоўвалася ў 1905 годзе супраць дэманстрантаў артылерыя. А вось што падчас грамадзянскай вайны Тухачэўскі выкарыстоўваў супраць свайго народа не толькі артылерыю, а і атрутныя газы /супраць паўстанцаў Антонава/ — гэта факт. І слуцкае паўстанне 1920 года было падаўлена бальшавікамі не без артылерыі. Пра гэта т.т. Чыкін і Шаляговіч не чулі?

І яшчэ два словы на заканчэнне. Камуністычны і іншыя падобныя «народныя» рухі на Беларусі апошнім часам разгарнулі барацьбу супраць дэмакратычных пераўтварэнняў у рэспубліцы. Я б ім параіў помніць: хто сее вецер, накліча буру.

**Аляксандр БАХАНЧЫК,**
**пенсіянер**
***Нясвіжскі раён***

Адукацыя

# ВЫКЛАДАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

***У Брэсце адбылася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Нацыянальная адукацыя і пытанні беларускамоўнага выкладання гуманітарных і прыродазнаўчых дысцыплін», у рабоце якой прынялі ўдзел звыш 130 навукоўцаў, сярод іх прадстаўнікі вядучых навуковых цэнтраў і ВНУ нашай краіны, а таксама вучоныя з Расіі і Польшчы.***

Асноўная ўвага была ўдзелена распрацоўцы канцэпцыі нацыянальнай адукацыі, выкананню Закона аб мовах у дзейнасці навучальных устаноў, пытанням навукова-метадычнага забеспячэння беларускамоўнага выкладання гуманітарных, прыродазнаўчых і матэматычных дысцыплін. Удзельнікі канферэнцыі падзялілісяназапашаным вопытам выкладання сваіх прадметаў па-беларуску, азнаёміліся з выдадзенымі вучэбна-метадычнымі дапаможнікамі і тэрміналагічнымі слоўнікамі, з камп'ютэрнымі праграмамі па адпаведных дысцыплінах.

На канферэнцыі выказвалася занепакоенасць сітуацыяй у ВНУ, якія, на думку старшыні рабочай групы Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны М. Савіцкага, па-ранейшаму знаходзяцца ў стане моўнай і духоўнай рэзервацыі, пад жалезным рускамоўным панцырам. Галоўны хваляроэ, аб які разбіваецца рух за нацыянальнае адраджэнне ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі, гэта рэктараты, дэканы, загадчыкі кафедраў, сярод якіх крытычна нізкі працэнт беларусаў. Так, сярод кандыдатаў навук у нашай рэспубліцы беларусаў толькі 48 %, а сярод дактароў і таго менш — 39 %.

Дзе ж выйсце?

На думку прафесара М. Савіцкага, для гэтага патрабуюцца неадкладныя меры, у ліку якіх: прызначэнне на пасады рэктараў новых, нацыянальна свядомых навукоўцаў; абранне на пасады кіраўнікоў факультэтаў і кафедраў тых выкладчыкаў, хто здольны добрасумленна выконваць палажэнні законаў аб мовах і адукацыі; прысваенне вучоных званняў прафесароў і дацэнтаў толькі пасля прадстаўлення тэкстаў лекцый на беларускай мове і г.д.

Аб мерах, якія неабходна прыняць дзеля паляпшэння дзейнасці навучальных устаноў, з заклапочанасцю гаварылі на канферэнцыі народныя дэпутаты Беларусі Я. Цумараў і У. Русакевіч, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі Л. Канаплянік і М. Ліс. Пытанні распрацоўкі беларускамоўнай тэрміналогіі ў галіне прыродазнаўчых і матэматычных дысцыплін знайшлі адлюстраванне ў дакладах дактароў навук Л. Сапегіна і С. Кандрацені, у паведамленнях Л. Латоціна, С. Алешкі, А. Крачкоўскага, А. Александровіча, Т. Сухой, У. Шылінца, С. Лазарэвіча, Л. Лісоўскага і іншых. Як адзначыў у сваім дакладзе доктар фізіка-матэматычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута матэматыкі АН Беларусі В. Бернік, ужо атрыманы вынікі ў галіне распрацоўкі беларускай навуковай тэрміналогіі пераканаўча сведчаць, што па сваіх магчымасцях наша мова ні ў чым не ўступае іншым і часта аказваецца бліжэй за рускую да мовы арыгінала /лацінь, грэцкай, англійскай і др./. Вядома, пэўная нераспрацаванасць беларускай навуковай тэрміналогіі ёсць адмоўная з'ява. Але, з другога боку, як адзначалася на канферэнцыі, мы маем унікальную магчымасць праанілізаваць ужо створаныя ў суседзяў-славян тэрміналагічныя сістэмы, каб найбольш адэкватна адлюстраваць навастворанымі тэрмінамі сэнс абазначаемых паняццяў. Пры гэтым дамінуючай становіцца тэндэнцыя браць у якасці зыходнай мову арыгінала, без скарыстання мовы-пасрэдніка.

Зрухі ў распрацоўцы айчыннай навуковай тэрміналогіі адбіваюцца і на выданні беларускамоўнай літаратуры, агульная доля якой у кніжным інфармацыйным патоку ў рэспубліцы павялічылася з 15 % у 1989 г. да 23 % у 1992 г. Тым не менш, пытанне забеспячэння ВНУ беларускамоўнымі падручнікамі застаецца па-ранейшаму нявырашаным. Адбываецца гэта, на думку доктара філасофскіх навук, прафесара БДУ Г. Давідзюка, таму, што і ў выдавецтвах, і ў ВНУ існуюць пэўныя ўплывовыя сацыяльна-палітычныя сілы, якія засталіся на пазіцыях камуністычнай ідэалогіі і не жадаюць спрыяць адраджэнню нацыянальнай школы. У многім «дзякуючы» ім выданне беларускамоўных падручнікаў ператвараецца ў наш час у складаную палітычную, эканамічную і тэхнічную праблему.

Пытанні пераводу на беларускамоўнае выкладанне гуманітарных дысцыплін былі прааналізаваны ў дакладах Э. Дарашэвіча, С. Яцкевіча, М. Анцыповіча, Л. Гаруновіч, Н. Лысовай, В. Шайкова, Л. Ермаковіча, другіх удзельнікаў канферэнцыі. Сучаснаму стану беларускіх школ у Польшчы былі прысвечаны даклады дактароў навук Т. Вілёха з Варшавы і В. Бужынськага /Бяла-Падляска/.

Як лічыць доктар філасофскіх навук, прафесар В. Салееў, дасягненне нацыянальнай школай узроўню перадавых еўрапейскіх краін, набыццё ёю сусветных агульнаадукацыйных стандартаў немагчыма без перагляду самой парадыгмы адукацыі. Арыентацыя на існуючую парадыгму прывяла да таго, што адукацыйныя працэсы разышліся ў наш час з працэсамі выхаваўчымі. Інфармацыйная аснова, на якой будуецца сучасная адукацыя, прыводзіць да аднабаковасці ў развіцці чалавека, эліміне пачуццёвыя кампаненты ў выхаванні. Таму сучаснай метадалагічнай асновай фарміравання асобы павінна, на яго думку, выступаць культуралогія, бо толькі ў рэчышчы нацыянальнай культуры можа з неабходнай цэласнасцю ажыццяўляцца гэты працэс.

Як лічыць вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі доктар сацыялагічных навук А. Ляўко, пабудаваць нацыянальную школу на аснове традыцыйнай фармальнай педагогікі ўвогуле немагчыма, бо апошняя пазбаўлена сацыякультурнага зместу, грунтуецца на мадэлях і схемах, якія не адлюстроўваюць сацыяльнай рэчаіснасці. На яго думку, вырашыць гэтую праблему можна толькі праз інтэграцыю педагагічнага працэсу і сацыяльна-культурнага жыцця грамадства, на аснове сацыяльнай педагогікі.

Вызначыць контуры адукацыі будучага, XXI стагоддзя, зрабілі спробу доктар навук, загадчык кафедры Мінскага радыётэхнічнага інстытута Ю. Харын і кандыдат эканамічных навук, загадчык лабараторыі Нацыянальнага інстытута адукацыі А. Данільчанка. На іх думку, вызначальную ролю ў гуманітарнай падрыхтоўцы будучых спецыялістаў павінна адыграць выкладанне такой дысцыпліны, як гуманістыка, якая інтэгравала б вед з галіны прыродазнаўства, гісторыі, літаратуры, псіхалогіі, антрапалогіі і другіх гуманітарных прадметаў.

Удзельнікі канферэнцыі звярнулі ўвагу на неабходнасць больш дзейснага кантролю з боку Міністэрства адукацыі за выкананнем у ВНУ рашэння аб матэрыяльным стымуляванні тых, хто выкладае свае курсы па-беларуску; выказалі слушную прапанову аб мэтазгоднасці зняншэння вучэбнай нагрузкі тым выкладчыкам, якія працуюць над падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі. Заслугоўвае ўвагі прапанова аб аднаўленні выдання часопіса «Наш край», які выдаваўся ў рэспубліцы ў 1920—30-я гг., і многія іншыя. Матэрыялы канферэнцыі апублікаваны ў тэматычным зборніку «Нацыянальная адукацыя і пытанні беларускамоўнага выкладання».

**Сяргей ЯЦКЕВІЧ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар**

Час і мы

***Сярод восеньскіх аграрна-запаслівых клопатаў мала часу застаецца на астатнія. І ўсё ж вераснёўскія падзеі вымусілі ўзяцца за пяро. Праўда, нататкі гэтыя з'яўляюцца не прамым адказам на сённяшнюю сітуацыю, а вынікам старых, раней узнікшых думак, выкрэсліванню якіх паспрыялі апошнія грамадскія ўзрушэнні.***

***Відаць, такі ўжо закон жыцця — усё прыходзіць і адыходзіць хвалямі. Аднак бываюць моманты, калі хваля накрывае цябе з галавой, і тады можна падумаць, што ўжо ніколі з-пад яе не выберашся. Нешта падобнае адбываецца і зараз, калі нас накрыла чарговая хваля «савецкай настальгіі». Але гэты камуністычны «рэнесанс» на самай справе ёсць чарговы і, відаць, не апошні выбрык чырвона-імперскага монстра, які трымае ў палоне нямала людскіх душ. Бо разбураны вонкавыя прыкметы імперыі, знікаюць яе інстытуты, знішчаюцца ідэалы, а многія з нас жадаюць назад у той незваротна адышоўшы час, які сёння здаецца некаму ледзь не «залатым векам».***

***Чаму так адбываецца? І ці сапраўды той час адышоў незваротна? Вось пра гэта я і спрабую паразважаць.***

# КУДЫ МЫ ПЛЫВЁМ?

## САВЕЦКІЯ КОМПЛЕКСЫ ПЛЮС БЕЛАРУСКІ МЕНТАЛІТЭТ...

Мы ўсе адтуль. З таго адзінага савецкага часу, *з тае прасторы*, што зараз ламаецца, перакручваецца і развальваецца на кавалкі. Відаць, так і трэба, так і павінна было быць — бо наканавана ходам самой гісторыі. Аднак вечны рэфлексійны жаль па мінулым, па незваротна згінуўшым жыцці ёсць важная ўласцівасць любой істоты, усвядоміўшай сябе ў часе і прасторы. Таму гэтак эмацыянальна, шчыра і пераканаўча гучаць успаміны і шкадаванні аб савецкім часе людзей, што пакінулі там свае сэрца, здароўе ці розум. І ўсё ж вярнуцца назад, у маладосць ці дзяцінства ніяк немагчыма, а менавіта гэта спрабуюць зрабіць сёння многія простыя і нават зусім непростыя людзі — з ліку самага вялікага начальства. Такі рэцыдыў дзіцячанаіўнага кансерватызму і бальшавіцкага рамантызму — з'ява не дзіўная для людзей, непрызвычаеных да самастойнага існавання ў сённяшнім свеце, да прагматызму і супярэчлівасці постіндустрыяльнага грамадства.

Савецкі чалавек нагадвае зараз смаўжа, якога раптам пазбавілі не вельмі зручнай, але звыклай ракаўкі, і раптам сваёй агаленай скуркай і кволым слізістым цельцам ён адчуў усю жорсткасць, холад і неўладкаванасць навакольнага свету. Таму і хочацца яму назад у шкарлупіну — апляваную, праклятую і зганьбаваную, раструшчаную наймольным абцасам новай эпохі. Няма ўжо «жалезнай заслоны» і «светлай будучыні», маральнага кодэксу камуніста з цвёрдай зарплатай і ўпэўненасці ў паслязаўтрашнім дні, дармовай адукацыі і дармовай медыцыны, а таксама шмат чаго яшчэ, што засланяла савецкага чалавека ад сапраўдных праблем цывілізацыі і атрафіравала яго здольнасці самастойна жыць і вырашаць гэтыя праблемы.

Што ж застаецца рабіць у такім незайздросным становішчы? Або паміраць, або жыць, гадуючы свае «зубы» і «мускулы» і ствараючы новыя каштоўнасці, адпаведныя нацыянальна-гістарычным традыцыям і сучасным дэмакратычным патрабаванням. Менавіта яны будуць злучаць нас з навакольным светам і бараніць ад нягод. Але на гэтым шляху ляжаць шматлікія аскепкі той самай савецкай «ракавіны», якая вызначала і накіроўвала жыццё і свядомасць кожнага чалавека. Прычым самая складаная і даўгавечная частка яе — унутраная, *духоўна-псіхалагічная, азначаемая як* савецкая ментальнасць. Асобныя рысы ці комплексы гэтай ментальнасці, не заўжды ўсведамляемыя яе носьбітамі, заслугоўваюць і больш грунтоўнага разгляду, чым у кароткіх нататках.

Напрыклад, такая з'ява, як савецкі патрыятызм. Ужо знік яго асноўны стрыжань — «класавая любоў» да камуністычнага ладу і яго партыі. Безнадзейна пахіснулася і другая падпора — *ваяўнічы бальшавіцкі мілітарызм*, але захоўваецца больш старажытны падмурак — вера ў звышмагутнасць і богавыбранасць расейскага народа, вера ў выключнасць яго нага прызначэння. Гэтая старая тэза вялікамаскоўскага пахо-джання, якая перайшла да савет аў ад самаўладдзя і разбухала пры іх з еўраазіяцкіх да сусветных рамак, не хутка пакіне затлумленыя галовы расіян. Але каб толькі іх!.. Шмат і беларусаў нясуць у сабе адбітак гэтай маніякальнай ідэі, якая па сутнасці з'яўляецца сімвалічнай кампенсацыяй за векавое рабства і бяспраўе простага чалавека. У гэтым ёсць пэўны разлік і нават своеасаблівая асалода: чалавек, раб ці «шрубчык» сістэмы, у яднанні з такімі ж забітымі людзьмі раптам адчувае сябе часцінкаю нечага вялікага і магутнага, удзельнікам «містычна-гістарычных» здзяйсненняў эпохі. І не важна, што ён жыве ў камуналцы, баіцца свайго суседа і начальніка, не можа купіць новых штаноў ці сказаць усё што думае, затое ён жыве ў дзяржаве, якая лётае ў космасе, мае самую буйную домну, ужывае больш за ўсіх хлеба і гарэлкі. Прычыны для гонару заўжды знаходзіліся ў савецкім грамадстве, больш таго — яны штучна ствараліся сістэмай прапаганды. Дык ці варта шкадаваць, што мы ўжо не маем дачынення да БАМа, Байканура, Калымы ці іншай якой прорвы? Ці не больш спакойна і ўтульна жыць у невялікай еўрапейскай дзяржаве без азіяцка-расейскай трасцы і каламуці? Ці не больш гэта адпавядае характару і жаданням саміх беларусаў, якія ніколі не мелі імперскіх ці месіянскіх намераў, занесеных сюды за расейскім і савецкім часам?

Яшчэ адзін жывучы савецкі комплекс — пастаянная экстэнсіўная памкненне. Экстэнсіўнасць, як характэрная рыса расейскага, а тым больш савецкага развіцця, пэўна, адбілася на псіхалагічным складзе людзей. Каму не вядома «хвалючае пачуццё» агромністасці, неабсяжнасці «Савецкай Радзімы», адчуванне таго, што гэта калі не ўвесь Сусвет, то, прынамсі, яго лепшая палова! Асабліва востра ўспрымаюць гэта маладыя, юныя душы, якія лёгка паддаюцца ілюзіі «шчаслівага краю» за даляглядам, якія спадзяюцца на такое месца, дзе разам вырашацца ўсе іхнія праблемы. Дзяржаўнае мастацтва і прапаганда заўжды культывавалі гэтыя прывіды і нават дакладна ўказвалі месца іх знаходжання на мапе Сібіры, Поўначы і Далёкага Усходу. Рамантыка трапіла на службу савецкай эканомікі і адначасова вырашала пэўныя сацыяльныя і нацыянальныя праблемы ў «рэспубліках». Бесперспектыўнасць і заганнасць экстэнсіўнага развіцця гаспадаркі зараз відавочныя, а вось экстэнсіўныя сацыяльна-псіхалагічныя спадзяванні не згубілі пакуль сваёй прывабнасці. Ва ўмовах Беларусі мусіць перамагчы зусім іншы падыход, які з пэўнай умоўнасцю можна азначыць як інтэнсіўны. Гэта тычыцца і матэрыяльнай, і інтэлектуальнай дзейнасці нашых людзей, перш за ўсё моладзі. Наш чалавек павінен зразумець, што ягоны «космас», поле самарэалізацыі ёсць матэрыяльна абмежаваная прастора — горад, раён, вёска ці нават уласны дом і гаспадарка. Тут, а не за «сінімі далямі» ёсць пачатак і канец усяго існага, вырашэнне асабістых і грамадскіх праблем. Сапраўднае развіццё адбываецца не ў пошуках-блуканнях па амерыканскіх ці азіяцкіх абшарах, а шляхам працы над сабою, імкнення да інтэлектуальнага, духоўнага, фізічнага і прафесійнага ўдасканалення. Гаворка ідзе не аб забароне перамяшчэння людзей куды ім захочацца, а аб новай дзяржаўнай філасофіі, аб стратэгічным накірунку выхавання, адукацыі, эканомікі і палітыкі, які б стварыў умовы для непатрэбнасці такога перамяшчэння. Гэта шлях да новага, больш канкрэтнага і патрыятычнага ўсведамлення радзімы, шлях да лепшых перамен у яе лёсе.

Да ліку іншых, больш вядомых савецкіх комплексаў можна аднесці калектыўную безадказнасць ці «бясхібнасць» калектыўнага розуму, аднадумства і нівеліроўку асобы, люмпенізацыю ці непрыязнасць да багатых і разумных, а таксама шэраг іншых рысаў. Ёсць у гэтым пераліку і прыватныя, менш прыкметныя з'явы нацыянальнага кшталту, на якіх і хацелася б спыніцца.

Я не згодны з тымі, хто сцвярджае беларускасць, абсалютна незалежную ад камуністычнага ўплыву. Зразумела, што існуе спрадвечная ці, прынамсі, дарэвалюцыйная плынь, якая не зведала савецкага ўздзеяння, аднак большасць беларусаў у той ці іншай ступені аказаліся далучаныя да бальшавіцкага эксперыменту, і можна пэўна сцвярджаць, што існуе даволі распаўсюджаны тып «беларуса-саўка», якога не так проста выкалупнуць з нашай гісторыі /і ці гісторыя гэта будзе?/. Іншая справа, што «беларускасць» яго інертная, амаль толькі пашпартная, і ўсё ж беларускі «савок» мае своеасаблівыя незмывальныя плямы тутэйшага паходжання. Бадай, самае яркае іх увасабленне можна знайсці ў асобаў нашага кіраўніцтва, якія за доўгія часы камуністычнага манапалізму акумулявалі найбольш выбітныя рысы савецка-беларускага характару. Якія ж гэта рысы?

Па-першае: залішняя інертнасць, гэтая жаноцкая размякчэласць і паслухмянасць лёсу, адсутнасць ініцыятывы і актыўнага мужчынскага пачатку.

Па-другое: няразвітасць здаровага нацыянальнага эгацэнтрызму і адсюль — усведамленне на фоне суседзяў сваёй непаўнавартасці і другасортнасці, што фармуе комплекс расейскага правінцыялізму.

Па-трэцяе: выразна акрэслены антыінтэлектуалізм, знарочыстая арыентаванасць на шэрасць і банальнасць «сярэднестатыстычнага выканаўцы».

Зразумела, што гэтыя рысы не абсалютна беларускія і, на шчасце, у нас ёсць пакуль сапраўдныя мужчыны, і не толькі тыя, што маюць вусы, гальштук ды іншыя прылады джэнтльмена. Аднак актыўных беларускіх дзеячаў, якія ўсведамляюць наша нацыянальна-дзяржаўнае «его», разумеюць яго звышкаштоўнасць і непаўторную існасць, пазбаўленую прастытуіравання з боку суседзяў, — такіх адзінкі. І, на жаль, не яны сёння кіруюць нашым караблём. Але ўсё ж карабель пакуль плыве, а як не плыве, то трымаецца наплаву, і маем надзею, што рахманая, «жаноцкая» каманда зменіцца нарэшце больш спрытнай і мужнай. Мне здаецца, што «беларускі карабель» заслугоўвае сёння лепшых капітанаў, ведаючых, куды трэба плысці і як гэта робіцца.

Што тычыцца савецкіх комплексаў, то кожны здольны да самааналізу чалавек можа знайсці ў сабе іх адбіткі, а пры жаданні — паспрабаваць пазбавіцца ад іхніх путаў. Акрамя чытання Карнэгі, Фрома ці ўсходняй філасофіі, гэтаму можа паспрыяць і зварот да нашых спрадвечных каранёў, да беларускай гісторыі, культуры, мовы, да матэрыяльнага ці духоўна-рэлігійнага вопыту продкаў. Гэта больш натуральны і даступны шлях да нашага вызвалення і адраджэння, да адаптацыі і ўрастання ў тканіну сучаснага цывілізаванага свету.

**Васіль АЎРАМЕНКА**
*г. Магілёў*



*Калаж У.СКРЫГАНАВА*

# НА НІВЕ НАШАГА АДРАДЖЭННЯ

## ЗГАДКІ Ў СУВЯЗІ СА 120-ГОДДЗЕМ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ІВАНА ЗАМОЦІНА

***Сёння, кінуўшы пільны позірк у пачатак дваццатых гадоў, лёгка заўважыць шмат таго, што паступова акрэслівала касцяк будучай таталітарна-каманднай сістэмы, вяло да панавання камуністычнай ідэалогіі, як адзіна правільнай і прымальнай. Тым не менш, дваццатыя гады прапісаліся ў нашай нацыянальнай гісторыі, прытым прапісаліся хораша і годна, найперш іншым. Акурат у гэты час набывалі размах працэсы беларускага нацыянальнага Адраджэння, і магутная яго хваля вынесла на свой грэбень шмат выдатных пісьменнікаў, акцёраў, мастакоў, вучоных. І не толькі беларусаў, якія воляю лёсу і абставін перад гэтым былі раскіданы па розных кутках былой царскай Расіі, а цяпер вярталіся дамоў, каб ладзіць новае жыццё. І прадстаўнікі іншых народаў ехалі да сваіх суседзяў, каб дапамагчы ім...***



У 1922 годзе Народны камісарыят асветы БССР запрасіў у Мінск і прафесара Івана Іванавіча Замоціна, прапанаваўшы яму працу на кафедры рускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Адзін з даследчыкаў жыцця і творчасці І. Замоціна Уладзімір Конан выказвае меркаванне, што тут не адбылося без другога знакамітага рускага вучонага, нядаўняга прафесара Маскоўскага універсітэта Уладзіміра Пічэты, які з 1920 года узначальваў маскоўскую камісію па стварэнні Беларускага універсітэта, а ў 1921 годзе стаў яго першым рэктарам /прадмова У. Конана «Іван Замоцін: на сумежжы дзвюх культур» да кнігі І. Замоціна «Творы». Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991/.

Вядома, з думкай У. Конана, што У. Пічэта «асабіста запрасіў свайго калегу ў Мінск», можна пагадзіцца, прымаючы пад увагу, як шмат зрабіў той па «зборы» кадраў для новай вышэйшай навучальнай установы. Аднак можна дапусціць, што і сам Іван Іванавіч мог рашыцца на падобны крок. Не будзем забываць — званне прафесар у 1908 годзе І. Замоцін /тады ён працаваў у Варшаўскім універсітэце/ атрымаў менавіта за даследаванні і лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры, аформіўшы багаты матэрыял у спецыяльны універсітэцкі курс. Чаму б, у такім разе, было не выкарыстаць магчымасць бліжэй пазнаёміцца з жыццём народа, гісторыяй і культурай якога даўно зацікавіўся? Да ўсяго на гэты час І. Замоцін знаходзіўся ўжо зусім не ў Варшаве, а ў Растове-на-Доне: сюды эвакуіравалі Варшаўскі універсітэт у пачатку вайны з Германіяй, назваўшы яго Данскім.

Адным словам, І. Замоцін на запрашэнне Народнага камісарыята асветы БССР адгукнуўся станоўча і стаў прафесарам кафедры рускай літаратуры БДУ. Прыехаў не залётнай птушкай, а з надзеяй асталявацца на Беларусі назаўсёды. А каб пазбавіцца «прышласці», з першых жа дзён узяўся за вывучэнне беларускай мовы. Праз два гады Іван Іванавіч ужо ведаў яе дасканала, ды настолькі, што пачаў чытаць лекцыі па-беларуску. І уласныя навукова-даследчыцкія інтарэсы скіраваў у русла беларускасці: узяўся за далейшае вывучэнне гісторыі нашай нацыянальнай літаратуры, уважліва сачыў за сучасным яму мастакоўскім працэсам, цікавіўся праблемамі літаратуразнаўства, вышэйшай школы, навукі на Беларусі.

Па прыездзе ў Мінск было І. Замоціну амаль пяцьдзесят гадоў. Нарадзіўся 1 лістапада 1873 года ў вёсцы Крывуліна /цяпер Бежацкі раён Цвярской вобласці ў Расіі/. Рана застаўся без бацькі. У сям'і быў адзіным сынам. Маці вырашыла пашукаць шчасця ў сталіцы. Можна сказаць — пашанцавала. Настаўніца, у якой яна пачала працаваць хатняй служанкай, адразу звярнула ўвагу на дапытлівага хлопчыка, паклапацілася, каб ён змог вучыцца. Неўзабаве яна ўладкавала Іванку ў школу-прытулак для сіроцкіх дзяцей, а пасля — за казённы кошт у гімназію, якую І. Замоцін скончыў з залатым медалём, а ў 1897 годзе — і аддзяленне гісторыі і славеснасці Пецярбургскага гісторыка-філалагічнага інстытута.

Атрымаўшы дыплом, працаваў настаўнікам гімназіі ў Пецярбурзе і Варшаве. На гэты час прыпадае і пачатак даследчыцкай работы. Неўзабаве прыйшоў і поспех. Першая ўжо манаграфія І. Замоціна «Раннія рамантычныя плыні ў рускай літаратуры», апублікаваная ў 1900 годзе ў Варшаве, засведчыла і шырыню погляду маладога аўтара, і самастойнасць яго мыслення ў асэнсаванні літаратурнага працэсу.

Увогуле, паставіўшы ў адзін рад яго першыя манаграфіі, навукова-папулярныя брашуры, нарысы, няцяжка заўважыць, што навуковы пошук І. Замоціна меў выразна акрэсленую мэту. Пасля дэбюту адзін за адным з'явіліся выданні: «Паданне пра Вадзіма Наўгародскага ў рускай літаратуры» /Варонеж, 1901/, «Тры рамантычныя матывы ў творах Гогаля» і «Блакітная кветка ў паэзіі Жукоўскага» /абодва ў 1902 годзе, адпаведна ў Варшаве і Львове/, «Рамантызм дваццатых гадоў XIX стагоддзя ў рускай літаратуры» /першы том манаграфіі, Варшава, 1903/ і іншыя. Ды і вучоную ступень магістра І. Замоцін таксама атрымаў за даследаванне менавіта вытокаў рускага рамантызму. Адбылося гэта ў 1904 годзе ў Казанскім універсітэце.

Маючы за плячыма ўсяго трыццаць гадоў, І. Замоцін меў ужо важкі навуковы набытак. Яго далейшая праца прыватдацэнтам у Варшаўскім і Пецярбургскім універсітэтах садзейнічала паглыбленню даследавання абранай аднойчы тэмы. Пра гэта сведчыць і другі том манаграфіі «Рамантызм дваццатых гадоў XIX стагоддзя ў рускай літаратуры», і шматлікія іншыя яго кнігі, брашуры, навукова-папулярныя нарысы. Многія з іх і па сённяшні дзень не страцілі свайго навуковага значэння, вартых таго, каб быць вернутымі з небыцця — тая ж манаграфія «Рамантызм дваццатых гадоў...», «Саракавыя і шасцідзесятыя гады: Нарысы гісторыі рускай літаратуры XIX стагоддзя» /1911/, «Ф. М. Дастаеўскі ў рускай крытыцы» /1913/, «М. Ю. Лермантаў: Матывы ідэальнага жыццебудаўніцтва» /1914/...

І вось — прыезд у Мінск. Новае асяроддзе, у тым ліку і навуковае. І адпаведна — новае кола праблем. Ён не збіраўся адразу развітвацца з рускай літаратурай, і гэта засведчыў шэраг яго публікацый, што ў хуткім часе з'явіўся ў беларускай перыёдыцы. Аднак ужо сама атмасфера /і не толькі ва універсітэце, а і ўвогуле ў тагачасным літаратурным, культурным, навуковым жыцці Беларусі/ не магла не паспрыяць звароту І. Замоціна да праблем беларускага нацыянальнага Адраджэння. Івану Іванавічу, які пастаянна акунаўся ў вір творчых спрэчак, імпанаваў дух апантанасці, рэвалюцыйнай узнёслаці. На яго вачах адбывалася станаўленне новай літаратуры, а калі шырэй — новай культуры.

Ды толькі ж ён, больш чым хто іншы, разумеў, што сучасныя мастакоўскія з'явы ні ў якім разе нельга разглядаць па-за кантэкстам абставін, што папярэднічалі ім.

У першым нумары «Полымя» за 1924 год апублікаваны яго артыкул «Пуціны беларускай літаратуры» /Якуб Колас. «Новая зямля»/. У канцы матэрыялу знаходзіцца дата яго напісання: 30.XI.1923 г. Менавіта з гэтага моманту ў навуковай дзейнасці І. Замоціна і пачаўся новы этап.

Гісторык рускай літаратуры, ён пасапраўднаму павярнуўся тварам да літаратуры беларускай. І зрабіў гэта ў час, калі неабходна было мець і грамадзянскую мужнасць і чыста чалавечае сумленне, каб у ацэнках і меркаваннях пайсці шляхам ісціны, а не паддацца афіцыйнай ідэалогіі. Будзем памятаць, што на пачатак дваццатых гадоў прыпадаюць артыкулы тагачаснага сакратара ЦК КПБ/б/ В. Кнорына, змешчаныя ў газеце «Звязда» /«Мёртвае хапае жывога», 1922, 17 верасня і «Нататкі аб беларускай літаратуры», 1922, 1 кастрычніка/.

Той, хто прывык трымаць нос па ветры, лёгка мог адшукаць для сябе «правільную» арыенціроўку: выкрываць «апяванне» Якубам Коласам «дробнабуржуазнага сялянства», напрацоўваць дывідэнды.

І. Замоцін жа ўбачыў у «Новай зямлі» Я. Коласа значную мастакоўскую з'яву. Ужо сама назва артыкула сведчыць, што гэты твор І. Замоцін лічыць магістральным для ўсёй тагачаснай беларускай літаратуры.

Даследчык бачыць у перспектыве чатыры, кажучы яго словамі, пуціны развіцця беларускай літаратуры. Першая — «пуціна сінтэзу крыніц, сінтэзу найбольш жыццёвых даных, абумоўліваючых генезіс і росквіт сучаснай беларускай літаратуры». «На другой пуціне, — падкрэслівае ён, — навейшая беларуская літаратура павінна шырока захапіць тыя сродкі мовы, якія багата закладзены ў жывой народнай гутарцы і ў помніках народнай паэзіі, і скарыстаць іх для выпрацавання сваёй паэтыкі і літаратурнай тэхнікі». Далей даследчык лічыць, што «культурна-этнаграфічныя матэрыялы і ўсебаковыя назіранні над жыццём Беларусі, уложаныя ў мастацкія формы, павінны даць шматгранныя абагульненні яе сацыяльнага быту». І, нарэшце, «на чацвёртай пуціне ўся гэта шматграннасць тыповых абагульненняў павінна быць зведзена да адной задачы, да аднаго асноўнага ідэалагічнага асяродку — новай сацыяльнасці». Усе згаданыя пуціны, так сказаць, на канкрэтным матэрыяле і бачыў ён увасобленымі ў «Новай зямлі».

Праз некаторы час /1926/ І. Замоцін выступіў яшчэ з адным артыкулам, у якім разглядаў адметнасць таленту народнага песняра — «Паэма Я. Коласа «Сымон-музыка» як аўтахарактарыстыка». Публікацыя ў «Звяздзе», а пасля і ў зборніку «Якуб Колас у літаратурнай крытыцы», была прымеркавана да дваццацігоддзя літаратурнай дзейнасці Я. Коласа. Праўда, І. Замоцін, а як бачна і з назвы, заглыбляўся ў саму творчую лабараторыю мастака слова. Высока ацэньваючы зробленае Я. Коласам, ён адначасова прыходзіў да высновы, што паэма «Сымон-музыка» — «плённае прадаўжэнне ранейшых традыцый беларускай літаратуры». І тое, што ў ёй шырокі рэзананс набыў вобраз песняра і музыкі, сведчанне аўтарскага заглыблення ў святое святых. Раней, да Я. Коласа, над гэтымі праблемамі задумваўся М. Багдановіч. Здавалася б, гэтыя творц...

Сярод кніг

# НАД «РАЗБІТАЙ ЛОДКАЙ»...

Нядаўна пабачыла свет новая кніга Алега Астапенкі «Разбітая лодка». Каб здагадацца, што гаворка пойдзе аб скалечаных, няўдалых лёсах людзей, надзвычайны дар прадбачання не патрабуецца. І сапраўды, цэлая галерэя чалавечых пакут пройдзе перад вачыма чытача, але, думаецца, не кране яго душы.

Угледаючыся ў Васіліну, гераіню аповесці з харошай лірычнай назвай «... А жніўень бывае дажджлівым», пачынаеш лавіць сябе на думцы, што гэта не жывы чалавек, а мадэль, якая дзейнічае схематычна. Вядома, падагнаць вобраз пад зададзеную схему лягчэй, чым выпісаць чалавечы характар. Калі чытаеш дыялогі Васіліны і Міхаіла, міжволі ўпадсвядомасці ўзнікае адчуванне, што гэтыя словы ты ўжо чуў недзе — ці з тэлеэкрана, у вядомых сялянска-калгасных эпапеях, ці з газетных перадавіц першых гадоў перабудовы. Банальныя ісціны, якія зрываюцца з вуснаў герояў /«Зразумей, мама, усё жыццё — гэта барацьба. Колькі ж можна цярпець? Рваць жылы», «А паспрабуй сказаць праўду, адразу аб'яўяць адшчапенцам, ворагам, экстрэмістам...»/ робяць благую паслугу аўтару, аддаляючы ад чытача разуменне чалавечай душы, чалавечых адносін, збіваючыся на голую рыторыку.

Напрыканцы аповесці пытаеш сябе: што ж зрабіла з Васіліны, мяккай, разважлівай, па-жыццёваму разумнай, халодную, насцярожаную нават да свайго сына кабету? Лёс? Адзінота? Сістэма? Ці ўсё разам? Але сістэма, лёс — надчалавечыя катэгорыі. А дзе тыя прыватныя, уласна Васілініны падставы? «А здрада мужа, а смерць сына, а няўдалая жаніцьба Міхаіла — вось яны, Васілініны падставы», — можна запярэчыць. Што ж, гэта яе, але рэакцыя Васіліны на ўдары лёсу настолькі шаблонная, схематычная, што гаварыць пра арыгінальнасць вобраза не выпадае. Імкнучыся паказаць тыповасць сваёй гераіні, думаецца, аўтар перагнуў палку, загнаўшы гэты вобраз у межы даўно склаўшыхся традыцый.

Нельга сказаць, што ўсе вобразы ў аповесці схематычныя, адчуваецца струменьчык жывога пачуцця ў Лізавеце, Міхаіле, Валерыі, нахабнай Валянціне. Але і такія вобразы ўжо добра вядомыя чытачу, аўтар не здолеў зрабіць сваё маленькае «адкрыццё» — надаць ім адметнае гучанне.

Другая частка аповесці пададзена як успаміны Міхаіла, але рэтраспектыўная мазаіка, што праходзіць перад чытачом, рассыпаецца на кавалачкі, так і не стварыўшы акрэсленай карціны. Едзе сын «родны, хоць і не адной крыві» да маці, і не ведае, што едзе на магілу. «А магла б, магла б... не перастарэлая, маладзенькая бабанька-ягадка яшчэ пажыць, парадавацца... Цокалі языкамі згорбленыя мужыкі-аднагодкі...» Развязка не новая. А магла б, магла б напісацца харошая, арыгінальная аповесць са спакойнай лірычнай назвай «... А жніўень бывае дажджлівым». А напісалася толькі першая частка з сапраўдным вясковым гумаркам, жыццёвай шматграннасцю, недзе нават алагічнымі, але поўнымі праўды, учынкамі герояў, з імкненнем зразумець адно аднаго, з цікавай мастацкай дэталлю: «... вёска Гуліванавічы неяк сцялася і сваімі замшэлымі дахамі нагадвала мужыкоў у нацягнутых на вушы шапках».

Хваробу схематычнасці мы можам назіраць і ў некаторых апавяданнях А. Астапенкі. Васіль Кузьміч з апавядання «Незаменны» павінен выклікаць павагу ў чытача. Гэта былы партызанскі камісар, вопытны настаўнік, якога паважае ўся вёска і пабойваецца новы дырэктар школы. «Ну, такога мы ўжо начыталіся», — скажаце вы. Сапраўды, пярэчыць — справа марная. Але давайце прыглядзімся да гэтага чалавека, раптам аўтар здолеў такаць нам яшчэ невядомае ў такіх людзях.

У баявога сябра памерла жонка, запіў харошы чалавек, глядзіш — сап'еца.

*Алег Астапенка. Разбітая лодка. Маленькая аповесць. Апавяданні. МП «Золак», 1993.*

вельмі не падобныя між сабой, і ўсё ж І. Замоцін шукаў пэўныя аналогіі паміж той жа «Новай зямлёй» і, скажам, багдановічаўскім «Музыкам», апавяданнем «Сон-трава».

Зварот да творчасці менавіта М. Багдановіча быў выкліканы і той акалічнасцю, што І. Замоцін у 1925 годзе стаў старшынёй літаратурнай камісіі Інстытута беларускай культуры па вывучэнні і выданні літаратурнай спадчыны гэтага класіка нацыянальнай літаратуры. Вынікам яе работы, як вядома, стаў выхад акадэмічнага Збору твораў М. Багдановіча ў двух тамах /1927—1928/. Сам жа І. Замоцін напісаў пры гэтым крытыка-біяграфічны нарыс «М. Багдановіч», які спачатку друкаваўся ў часопісе «Узвышша» /1927, NN 2, 3, 5/, а затым — у перагледжаным і дапоўненым выглядзе — у згаданым Зборы твораў. Нарысу было суджана стаць першай манаграфіяй пра жыццёвы і творчы шлях М. Багдановіча. Безумоўна, ва ўсёй значнасці мастакоўскую спадчыну яго І. Замоцін не ацаніў. Ды і наўрад ці мог бы гэта зрабіць. І справа не толькі ў тым, што яму, будзем справядлівымі, цяжкавата было разбірацца ў розных аспектах нашай нацыянальнай гісторыі, да вывучэння якой сур'ёзна толькі падступаўся. Сказалася, пэўна, і прадузятасць тагачаснай крытыкі, літаратуразнаўства ў дачыненні да М. Багдановіча. Недаацэнка даследчыкам некаторых твораў М. Багдановіча — ці не імкненне неяк зменшыць удар, які мог бы быць абрушаны на яго за «ўзвелічэнне» таго, каго, карыстаючыся выказваннямі В. Кнорына, можна было лёгка назваць носьбітам «дробнабуржуазнага народніцтва»?

Тым не менш І. Замоцін, адкрываючы па сутнасці М. Багдановіча для сябе, дапамагаў гэта зрабіць і тагачаснаму чытачу. Ды і нам дапамагае, бо асноўныя яго развагі не страцілі значэння і па сённяшні дзень.

Што тычыцца важнасці як гэтага нарыса, так і ўсёй работы па зборы і вывучэнні спадчыны М. Багдановіча для самога І. Замоціна, дык ён тым самым зрабіў практычныя захады для стварэння свайго роду праграмы беларускай тэксталогіі. Ішоў ён тут таксама па цаліку, выступаў першапраходцам. Тэарэтычна ж абгрунтаваў уласныя меркаванні ў артыкуле «Чарговыя задачы вывучэння беларускай літаратуры». У аснову яго быў пакладзены даклад, прачытаны ім у 1927 годзе на сходзе Аддзела гуманітарных навук Інбелкульта. Далёка наперад глядзеў ён, яшчэ як наперад! Звяртаў увагу на неабходнасць падрыхтоўкі крытыка-біяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў, на сістэматызаванае вывучэнне літаратурных архіваў, на зверку далейшых публікацый з першакрыніцамі, на напісанне біяграфій жывых творцаў, на напісанне гісторыі беларускай журналістыкі.

І, канечне ж, на першым плане для І. Замоціна было акадэмічнае выданне творчай спадчыны. Пры гэтым праяўляў здзіўляючы аптымізм і ўпэўненасць, што яго зразумеюць, а намаганні падтрымаюць: «... мы зацікаўлены, каб кніга, падрыхтаваная да выдання, друкавалася не год і не паўтара, а самае вялікае — паўгода, каб мы змаглі выпускаць кожны год у крайнім выпадку па два тамы акадэмічнай бібліятэкі беларускіх пісьменнікаў».

Так і хочацца сказаць: вернемся да Замоціна. Ажыццёвім толькі тое, на што ён звяртаў увагу яшчэ ў канцы дваццатых гадоў, і адразу адчуем, як хутчэй пойдзе наперад наша Адраджэнне! Пачнём не на словах, а на справе ўважліва ставіцца да сучаснага нам літаратурнага працэсу: «гэта пабудаванне навуковых гісторыка-літаратурных эцюдаў, манаграфій, нарысаў, аглядаў і г.д.». Пачнём...

Ён не толькі заклікаў. Ён паказваў прыклад, як неабходна працаваць. У тым ліку і па даследаванні малавядомых старонак гісторыі беларускай літаратуры. Сведчанне таму — яго артыкулы «Аб новых рукапісах В. Дуніна-Марцінкевіча» і «Літаратурная спадчына А. Б. Петрашкевіча», якія, на жаль, у свой час так і не пабачылі свету, хоць і былі падрыхтаваны да друку — карэктурныя адбіткі знаходзяцца ў фондах Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі. Апошні артыкул — гэта, па сутнасці, міні-манаграфія пра творчасць аднаго з паэтаў-нашаніўцаў А. Б. Петрашкевіча, пра якога мы і сёння ведаем вельмі мала.

Сказаць, аднак, што ўсё з напісанага І. Замоціным пра беларускую літаратуру аднолькава значнае, пакрывіць душой. Напрыклад, не ўдалося яму разабрацца ў адметнасці таленту Я. Купалы-драматурга /артыкул «Беларуская драматургія», змешчаны на старонках часопіса «Узвышша», 1927, N 1/. Памыляўся ён і ў ацэнцы творчасці Кандрата Крапівы /артыкул «Творчы шлях Крапівы: 1922—1932»/, упершыню надрукаваны ў часопісе «Заклік», 1933, N 2/. Ды памыляўся, пэўна, не па сваёй віне. Тым часам ужо самога І. Замоціна паспелі аб'явіць беларускім нацыяналістам, а ў 1931 годзе ён быў пазбаўлены прафесарскай пасады ва універсітэце, вымушаны быў перайсці ў Мінскі педагагічны інстытут.

Працаваў ён тут да 4 красавіка 1938 года, калі быў арыштаваны. А 5 жніўня 1939 года атрымаў восем гадоў зняволення. Адправілі ў Рэспубліку Комі. Меў тады ўжо далёка немалады ўзрост, да ўсяго хварэў, з гэтай прычыны трапіў у так званую «інвалідную брыгаду». Пасля перавялі ў адзін з лагераў каля горада Горкага.

Прынамсі, жонка І. Замоціна пасля рэабілітацыі мужа ў 1956 годзе атрымала даведку, што ён памёр 25 мая 1942 года ў бальніцы ўпраўлення ўнутраных спраў і знайшоў апошні прытулак на могілках «Мар'ін Гай» горада Горкага. Як і трэба было чакаць, сваякам Івана Іванавіча яго магілу адшукаць не ўдалося. Ды і ці дакладна названа дата яго смерці? Добра ж вядома, як часта ў падобных даведках ставілася адвольная лічба. Акрамя таго, ходзяць чуткі, што прафесар І. Замоцін зусім не ад сэрца памёр, а не вытрымаў фізічных і маральных пакут і скончыў жыццё самагубствам.

Згадваючы сёння імя І. Замоціна, мы шануем найперш яго навуковыя набыткі. Але разам з тым яшчэ раз хацелася б падкрэсліць тое, пра што гаварылася ўжо. Іван Іванавіч, сын вялікага рускага народа, сваім жыццём і дзейнасцю даў узор сапраўды паважлівага стаўлення да беларусаў, да нашага нацыянальнага ўкладу жыцця, да нашай мовы і культуры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# І АДЗІН У ПОЛІ ВОІН

Апавяданне А. Кудраўца «Смерць нацыяналіста», якое дало назву апошняму зборніку пісьменніка, адносіцца да ліку тых, у якіх цёплае лірычнае пачуццё стварае той эмацыянальны настрой, які ў адзінстве з апавядальнай плынню не можа пакінуць чытача абыякавым. Гэтая цеплыня ідзе ад бязмежнай шчырасці апавядальніка, які ўспамінае аб гадах свайго студэнцкага юнацтва, і звязана з вобразам чалавека, які заўчасна памёр, пакінуўшы след у душах нямногіх.

З самага пачатку пісьменнік звяртае ўвагу чытача на незвычайнасць падзей, аб якіх пойдзе размова. «Дзверы пакоя расчыніліся ўслед за нецярплівым стукам у глухую дашчаную філёнку», — так пачынаецца апавяданне. Як бачым, будзённасць дзеяння адразу адмаўляецца з'яўленнем Яго. Жанравая форма апавядання не дае магчымасці зацягнуць дзеянне, перавесці яго ў апавядальную плынь, таму кароткае азначэнне Яго «Ён — жывы і светлы, як чаканая з'ява ці прыемны сон» з'яўляецца напачатку бадай што адзінай характарыстыкай і служыць указальнікам на суб'ектыўны характар успрымання падзей, аб якіх будзе ісці гаворка. І прысвячэнне да апавядання «Памяці майго земляка В. Ганчаронка», і першасная характарыстыка Яго, дадзеная ва ўспрыманні малодшага сябра, земляка, які выступае ў творы ў ролі апавядальніка, сведчаць аб незвычайным, трагічным лёсе маладога чалавека.

З першых старонак аўтар стварае атмасферу зацікаўленасці вакол свайго героя. Уражанне прыўзнятасці і ўрачыстасці ад з'яўлення Віктара на парозе студэнцкага інтэрната — пачуццё студэнта-юнака, чые павага і цікавасць да земляка даўно перараслі ў захапленне. Але апавядальнік — сталая асоба, ён ведае аб сваім земляку значна больш і мае магчымасць ацэньваць яго жыццёвыя паводзіны з пазіцыі часу. Менавіта таму вядучую танальнасць твора абумоўлівае гэтае веданне і жыццёвы вопыт.

Рытм апавядання набывае няроўнасць, нейкую ўзбуджанасць. Горкае пачуццё і сум успамінаў складаюць інтанацыйную афарбоўку твора. У тэксце пераважаюць апісанні неразгорнутыя, быццам дэталі за часам адышлі назад, фарбы памерклі, а засталіся эмацыянальна-пачуццёвыя ўспаміны. У раскрыцці характару свайго героя пісьменнік прытрымліваецца прынцыпу паступовасці. Першапачатковая характарыстыка Віктара закладзена ў кароткае, але ёмістае азначэнне, дадзенае ў форме займенніка з вялікай літары. Гэта і вызначае ракурс успрымання героя. Аднак пасля А. Кудравец на вачах чытача знімае свайго героя з нябёс на зямлю, малюючы яго непрывабны знешні выгляд. Не, гэта не зніжэнне героя. Наадварот, Віктар з'яўляецца для малодшага сябра чалавекам незвычайным, вышэйшым за яго і за іншых аднакурснікаў і знаёмых. Гэтае непадабенства не проста ў знешнім выглядзе чалавека, які не надае пэўнай увагі таму, у што ён апрануты. Выключнасць Віктара ў нечым большым — у духоўнай напоўненасці яго жыцця, у неўтаймаванай рашучасці даказаць сваю праўду, у самастойнасці думкі, у няздольнасці прыстасавацца да ўмоў.

Барацьбіт за нацыянальную ідэю, Віктар меркай чалавечай каштоўнасці лічыць духоўнасць. Такая жыццёвая пазіцыя героя вызначае кола яго знаёмых і сяброў і характар дзеяння самога героя. Апавядальнік не абмяжоўваецца пачуццёвым успрыманнем, яму важна паказаць свайго знаёмага як асобу, таму А. Кудравец адразу з першай старонкі апавядання ўключае свайго героя ў дыялог, класічную форму моўных зносін. Першасныя ўяўленні аб Віктары складваюцца ў чытача з яго кароткіх і адрывістых рэплік, яны дазваляюць у пэўнай ступені ўявіць характар чалавека нешматслоўнага, стрыманага ў пачуццях, але такое ўяўленне падманлівае, бо чым далей чытач знаёміцца з героем, тым больш уражвае моўная культура гэтага чалавека, смеласць у думках, шчырасць у пачуццях і рашучасць у дзеянні.

Нягледзячы на тое, што герой не знаходзіцца ў самаруху, а ўзнаўляецца праз успрыманне апавядальніка, той пакідае за сваім героем права выказвацца з уласцівай яму экспрэсіяй і індывідуальнымі асаблівасцямі. Дадзены мастацкі прыём абумоўлены характарам героя, значнасцю яго асобы ў жыцці апавядальніка. Устойлівая эмацыянальная памяць апошняга абумоўлівае максімальна дакладную перадачу рэплік Віктара, і чытач заўважае, што мова героя не пазбаўлена вобразнасці. Толькі паказаўшы свайго героя як дзеючую асобу з сваёй манерай паводзін, сваімі думкамі, пачуццямі, сваім голасам, пісьменнік пераводзіць дзеянне ў апавядальны план, час ад часу вымушаючы Віктара сваім непасрэдным дзеяннем парушаць яго. Такі прынцып арганізацыі апавядання абумоўлены творчай задумай пісьменніка — намаляваць важнейшыя эпізоды з жыцця героя, што вызначылі яго трагічны лёс.

Так натуральна ў твор уваходзіць эпоха панавання ўсеагульнага маўчання і ўсёдазволенасці з боку вышэйшай улады, эпоха, у якую ішоў працэс нівеліравання чалавека як асобы, і дзе такіх сумленных, бескампрамісных людзей, як Віктар, чакала гібель. Пад пяром пісьменніка вобраз Віктара вырастае ў вобраз сучаснага Дон Кіхота, які ідзе змагацца з ворагам, імя якому — сістэма, і ў выніку няспраўджаны лёс, загубленае жыццё.

Сацыяльна завостранае па пастаноўцы праблемы апавяданне А. Кудраўца «Смерць нацыяналіста» сведчыць аб уменні пісьменніка на бытавым матэрыяле ў самай кароткай і складанай жанравай форме стварыць сацыяльнае палатно, партрэт часу праз лёс чалавека. Захоўваючы дакументальную аснову, аўтар стварае сапраўдны мастацкі твор, які па ўзроўні майстэрства не ўступае папярэднім творам пісьменніка, у тым ліку апавяданню «Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі», які даў працяг раману «Сачыненне на вольную тэму».

Кірунак творчасці, абраны пісьменнікам на пачатку свайго творчага жыцця і ахарактарызаваны крытыкам У. Гніламёдавым як спалучэнне «штодзённасці, зменлівасці чалавечых адчуванняў з глыбінёй гістарычнай памяці», стаў з'явай устойлівай у творчасці мастака, абумовіў стылёвыя пошукі і творчыя знаходкі пісьменніка.

**Наталля ДЗЯГЦЯР,**
**аспірантка Інстытута літаратуры АН Беларусі**

Памагчы трэба. Як? А да падлеткаў яго трэба прыстроіць.

Сяргей, добры хлопец, брыгадзір, вядома, былы вучань, забыўся на сябра, той піць пачаў, з блатнягамі звязаўся. Прыйшоў да Сяргея Васіль Кузьміч, пагаварыў, увагнаў у чырвань. Вось і возьмецца Сяргей за Блешчыка, дапаможа хлопцу. А там недзе на вуліцы няшчасная Яўдоха паспавядаецца і «паплачацца ў камізэльку». Як бачым, асаблівай арыгінальнасцю думка аўтара не вызначаецца. Ну амаль Хрыстос наш Васіль Кузьміч!

«Ён і сумуе, і перажывае...» — вось у гэтыя словы свайго мудрага настаўніка трэба было ўдумацца аўтару і пераключыць свой кантрастны чорна-белы погляд на жыццё на каляровы, убачыць, што чыста чорнага і белага вельмі мала, ды і глядзіцца яно штучна.

Сюжэт апавядання «Чужакі» таксама не будзе навіною для чытача. Дзеці, якія забыліся пра старэнькую маці, атрымліваюць тэлеграму і з вянкамі пруцць на пахаванне, мяркуючы дарогаю, якія выгоды тут можна займець. Маці, вядома, жывая, і не толькі жывая — машыну выйграла. Але аўтару і гэтага падалося мала. «Усе сядзелі з разяўленымі ратамі — перад вачыма зіхацелі зорка Героя Сацыялістычнай Працы, побач з ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі, Граматай Вярхоўнага Савета». А можа, давайце спынімся, меру ж трэба ведаць і хаця б трошкі паважаць патэнцыяльнага чытача!

Ёсць у кнізе неблагія апавяданні. Хораша ўдаліся аўтару дзіцячыя вобразы ў апавяданнях «Сірата», «Белы карабель», «Пасля хаўтур». Кранае пачуццё безабароннасці перад жорсткім дарослым светам. Цікавымі падаюцца апавяданні «Сцепаніда», «Надзея». У апошнім добра прасочаны пачуцці жанчыны, іх эвалюцыя. Робіцца гэта ўсё далікатна, з густам. Але, на жаль, уражанне ад кнігі ўжо канчаткова сапсавана.

Будзем спадзявацца, што назва апавядання «Надзея» стане сімвалічнай і мы сустрэнемся з Алегам Астапенкам, які ўзнімецца на новую прыступку мастацкай дасканаласці. Тады і нам не давядзецца мучыцца пытаннем: «Ці можа крануць за душу голая схема і штучная надуманасць?» Пытаннем, вядома, рытарычным.

**Змітрок ГРЫВЕНЬ**

Друк

## БЫЦЬ ВІДУШЧЫМ ДУХОЎНА

Шмат матэрыялаў адраджэнскага кірунку ў чацвёртым нумары грамадска-палітычнага і літаратурна-мастацкага часопіса «Зрок». Р. Іванчанка ў артыкуле «Жыццё дало мне ўрокі сумлення і спачування» расказвае пра жыццёвы і творчы шлях С. Станюты. Пад рубрыкай «Народныя паэты Беларусі» змешчана некалькі вершаў Н. Гілевіча. «Іранічныя старонкі» М. Шэлехава «Маўчанне сфінкса», «Рудыменты» — публіцыстычны роздум аб нашым складаным і супярэчлівым часе. «Храм у Мар'інай Горцы» Х. Крываноса — падарожжа ў даўніну. Часопіс пачынае друкаваць раздзелы з рамана У. Рэйманта «Апошні сейм Рэчы Паспалітай», які мае намер перавыдаць выдавецтва «Беларусь». Для дзетак ёсць традыцыйная падборка «Ліхтарык».

## ПОКЛІЧ СІВОЙ ДАЎНІНЫ

Кніга Таццяны Каробушкінай «Курганы Беларускага Пабужжа. X—XIII стст.», выпушчаная выдавецтвам «Навука і тэхніка», адрасавана тым, хто цікавіцца сівой даўнінай. У манаграфіі ўпершыню абагульнены і ўведзены ў навуковы ўжытак матэрыялы, што былі атрыманы пры археалагічных раскопках /у тым ліку зробленых і самім аўтарам/ курганных могільнікаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі цяперашніх Брэсцкага, Маларыцкага, Пружанскага, Жабінкаўскага, Кобрынскага, Камянецкага раёнаў Брэсцкай вобласці.

З раздзелаў «Пахавальны абрад», «Пахавальны інвентар і даціроўка», «Этнічная прыналежнасць насельніцтва Беларускага Пабужжа ў IX—XIII стст.» можна даведацца, што на згаданай тэрыторыі жылі дрыгавічы, якія толькі ў пачатку другога тысячагоддзя пачалі хаваць нябожчыкаў, а не спальваць.

У выданні прыведзена некалькі табліц пра пахаванні ў пэўным раёне. А на заканчэнне, у якасці дадатку, змешчаны даведачны матэрыял «Курганы Беларускага Пабужжа», у якім расказваецца пра найбольш значныя помнікі даўніны.

Паэзія

Максім ЛУЖАНІН



# З РОЗНЫХ БЛАКНОТАЎ

●

Я намерыўся ехаць. Параюся з картай
І патраплю на могільнік
пройдзеных дзён,
Хоць зірну, ці ёсць завязь
пасеяных мар там.
Ці прапрадзедаў колас на ветры відзён.

## БЕЛАРУС

Зямлю ён меў і назоў,
А жыў як жабрак-падсусед.
Дыхаў з ласкі князёў,
А долу клаўся ў прымусе.

Дагэтуль твайго плачу,
Людзе мой без'языкі,
Б'юся, а не сплачу, —
Занадта ў цябе пазыкі.

Заблытаны між цянёт
Братніх або дружбацкіх,
Ці вырвешся зрэшты ў лёт,
Ці будуць цябе, як цацку,

Што ў рукі кідаюць з рук
Малыя...
Яны ж не дбаюць,
Што ў цацкі адбіты плячук
Ці галава...
Гуляюць!

На ўласную мураву
Стань каля ўласнай хаты!
Дзеля таго жыву
Ужо дзевяты дзесятак.

## ГОРАД ПАМЯЦІ...

Сілай душэўнага зроку
Выпраўляю сягоння сябе на вандроўку
У сваю маладосць.
Гэта — непадалёку.

Постаць выйшла, і сябар са мной паздароўкаўся.
Ён крыху адступіў і вярнуўся з сяброўкаю.
Ані слова — абое.
А ў іх
Абаіх
След на шыі адціснут вяроўкаю.

Пакаралі на горла.
Пaмipaлi то горда,
А — горна!

Я маўчу.
Я маўчанкаю той
На ўвесь голас крычу:
— Хіба знойдзецца большае гора дзе?
Зор няма —
Ноч іх кліча ўсю ноч.
Я скараюся ёй.
Мы блукаем па горадзе.

Клёны ў мосендзы —
Вось яны.
Многа шляхоў не завершана.
А было гэта ўвосені
Дзевяцьсот сорак першага —
Тога —
Года цяжкога.

## З РАДАСЛОЎНАЙ

Пасярэдзіне Навагра́дку
Ёсць даўгі старасвецкі мур.
Тут пачатак маіх пачаткаў,
Тут нягоду я перайму.

Кажуць, княжыў тут колісь Вітаўт,
Неблагі, відаць, ваяўнік:
Колькі вытаўк, каго не вытаўк,
Хай гісторыкі знойдуць лік.

Што блукаць у сівую далеч!
Боль, мне слова не застрамі.
Шмат пазней жылі, бедавалі
Тры сям'і у адной сям'і.

Вось дзе, праўда, мая айчына!
Дзед Сямён і яго сыны
Елі хлеб з адной дзесяціны
І скарынцы былі жадны.

З іх адзін, Каратай Амброжы,
Як гавораць, на ногі стаў,
Падвучыўся і ў храме божым
Кнігу псальмаў пачаў гартаць.

Ахватней жа за плугам, босы,
Ад марозу ў мароз хадзіў,
І з дарог на сваю палосу
Камякі з-пад каня насіў
Проста ў шапцы...
Тады царкоўны
Звон стары, што ледзь-ледзь ліпеў,
Пад асенні дымок у ёўнях
І мяне падштурхнуў на спеў.

Пасярэдзіне Навагрaдку —
Ледзь жыве старасвецкі мур.
Тут пачатак маіх пачаткаў,
Усяму я тут веры йму.

●

А нішчымнікаў, галадранцаў
Свет не бачыў горай, як мы.
Дзе той спеў! Жыць не мелі шанцу,
Вандравалі ў турму з турмы.

●

Зрабіся хоць раз папроськам,
Век будзеш руку падсоўваць:
Нехта адбудзецца поціскам,
А нехта дасць залатоўку.

У ногі мы прыпадаем
да дабрадзеяў нашых:
Маўляў, абы-як пад'еўшы,
не аб усім падбаўшы.

Мы мералі грошы кошыкам
І раптам ушіэнт збяднелі,
Што за душою ні грошыка,
Мукі ў каморы ні жмені.

Мы ж семдзесят год глядзелі
І семдзесят год не бачылі,
Што з працы цяжкой займелі,
Хіба што паходку рачую.
Ды нас інакш не стаўлялі:
На коленкі або рачкі.
І па баках давалі
Лазовымі патарчакамі.

Ці ж мы рабіць ленаваліся
Або жылі няўмекамі?
Так лёсам накаnавалася —
Быць ціхімі чалавекамі.

●

Хваіна шуміць хваіне:
Дай кожнай з іх па айчыне.
Сястрычкі, шумець дарма, —
Радзіма ва ўсіх адна.
І ў зубра, і ў салаўя.
З адною жыву і я...
І больш ні ў кога няма.

●

Не, я не себялюб,
Я стаўлюся зацята
Да ўсіх на свеце згуб,
Як і да ўласнай страты.

Праз гэта ва ўладык
Не быў ніколі ў ласцы,
У гэтым — маладых
Дагнаць наўрад ці ўдасца.

●

Жыў некалі магнат
Гразёна-Паліваеў,
Камусьці, дзесьці сват,
Па ўсім відаць, што хват,
Не з тых, хто пазяхае.
І не было тых дат,
Каб ён каго не злаяў,
Яшчэ й нагой даваў,
Каб той бядак не ўстаў.
А дзе ён жыў такі?
Ды сярод нас, браткі.
Захочацца зірнуць —
Скасіце вока чуць.

●

Калі пан-Бог загадае з'явіцца
на ўласныя вочы
І зараз жа паўшчувае:
«Забавіўся, галубочак!
Патрэба была якая так доўга
па свеце крочыць,
Ці хоць адна, малая,
табой ажыўлена рочадзь?»
Тады адкажу дзядулю:
навошта адчытваць гэтак?
Ці раз мае вушы чулі:
твой клопат — усе сусветы.
Каб іх ратаваць ад грэху,
паслаў на пакуты сына.
Куды сціплей маё рэха, мой клопат —
адна краіна.
Але якая затое! Нідзе
не знойдзецца роўнай —
Мілейшае, даражэйшае, рахманае,
не бунтоўнай.
Каб толькі на кулі земнай
цвярдою нагой ступіла,
Каб выйсці ёй з паніжэння,
званой разгайдаю біла.
Дванаццаць вучняў склікалі людзей
да Хрыста усюды:
Пятро — між іх, значыць — камень,
і здраднік, што зваўся Юда.
А мне дзе ўзяць тых апосталаў,
ветрам жа не надзьме іх,
Калі свае мовы простае не хочуць,
не разумеюць!
І Пётры сталі не тыя, і Юдаў
стала завельмі,
Дай скрыні ім залатыя,
рассквараныя патэльні.
Твой сын быў раскрыжаваны
за мноства правінаў нашых,
Піў воцат з горкаю жоўцю,
я п'ю з гэткай самай чашы.
Жывецца не надта поўна,
ды жаліцца нейк няёмка,
Калі не стае купонаў,
не грэбую самагонкай.
Сілкуюся, чым зарвецца.
Тым, што і ўся краіна,
Дык хай табе не здаецца,
што маеш горшага сына.

## ГІСТОРЫЯ І ГЕАГРАФІЯ

Хадзілі заўсёды разам —
такая ўжо доля трапіла! —
Дзве дысцыпліны школьныя:
гісторыя і геаграфія.

Зубрылі мы іх, вучылі,
Але не ў належным чыне.

Звягалі пры кожным карку
майстры валачашчай зборні,
Перакройвалі геаграфію,
перараблялі гісторыю.
Добры кавалак сушы,
Богам табе дадзены,
Глядзіш, ад цябе адрэзаны,
іншым людзям прымераны.

Продкі пісалі законы,
навукамі авалодвалі,
У бітвах перамагалі...
Гулі паўстанні народныя.

І ўсё гэта наша знікала
пад нейкімі злымі пёрамі,
Заслугі ў нас адбіралі,
на памяці аб'ягорвалі.

Мы, герб свой высока ўзняўшы,
сцяг у руцэ ўтрымаем,
Крошкі падзей збіраем,
часу твар узнаўляем.

Часам здаецца: лішне корпаемся
ў сутарэннях.
Ловім дагістарычнае стварэнне
або здарэнне.
Не кідаюся ўпічкамі, жыццё
пасняшаць прышпорвае,
Каб толькі святлей жылося,
ішлося з душой прасторнаю.

Давайце гэтак запішам — на камені,
не на кафліне:
Думайце пра гісторыю,
дбайце пра геаграфію.

●

Не было таго дня,
Каб у пекле халодным, за дротам,
Палявога відна
Беларусі мае не плыло там.

Скінеш камень з плячэй,
Калі ўявіцца ў лагернай скрусе
Бляск азёрных вачэй,
Плёскат крыл на маёй Беларусі.

І куды б ні ішоў,
Як па компасе, ўміг павярнуся
На гамонку бароў,
Што жывуць на грудах Беларусі.

Дзе б мой дзень ні ільдзеў,
Дзе б пад сонцам гарачым ні гнуўся,
Чую голас людзей,
Што чакаюць мяне ў Беларусі.

Будзем жыць, не блажэць,
Не сатромся на тло ў землятрусе,
Толькі б рос і дужэў
Волі дух над чалом Беларусі.

Вось і кліча ў разгон,
Ломіць грудзі бяссонны кавалак,
Што ад сэрца свайго
Беларусь на маё адарвала.

●

Не пражывеш патайна
У часавым віры,
Таму — паменш пытанняў,
А трэба — ляж, памры.

Напэўна ж, праўда стане
На варту ўгалавах,
Адзіная, святая,
З распяццем у руках.

●

Ніяк не выветрае з дому
Той лёс, што продак наш прыняў:
На ланцугу брахаць самому,
Каб нейкі пёс у ложку спаў...

●

Хрысціцца нехта ўпотай.
Нехта наўцёкі ўлёг.
Звалены, каля плоту,
Колішні цар і бог.

Што мне — хваліць ці хаяць?
Позна.
Было раней.
Зараз не зацінае
Мовы ручво ў людзей.

Точыцца...
Ці ж надоўга?
Людзі — яны майстры:
Новага ставяць бога,
Толькі ўпадзе стары.

Богу такому дзверы
Не адчыню, дарма!
Сэрцу патрэбна вера
У тое, чаго няма.

Можа, не хутка будзе,
Але павінна быць.
Лоб пашануйце, людзі,
Кінце паклоны біць.

Нельга прасіць нічога,
Лёс не падасць жабраку.
Вера і перамога
Свецяць у родны кут.

Проза

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# ДВА ГАДЫ ДА ВЯСНЫ



АПАВЯДАННЕ

Сабакі забрахалі, пачуўшы крокі на лесвічнай пляцоўцы, яна адчыніла адразу, не чакаючы званка. Заўсёды збіралася ў дарогу загадзя, якая б тая дарога ні выпадала: кароткая ці даўгая. Чакала па-вясковаму седзячы ці нават стаяла, глядзела перад сабой, пільнуючыся, бы варта толькі адхінуцца, адысціся ўбок, да люстэрка, як скранецца пад нагамі, не ўстоіш. Яна амаль адчувала пачатак дарогі пад сабой тут, у кватэры, выкінуты адным канцом, як скрутак. І вось зараз сама пераступіла парог насустрач і, ледзьве прывітаўшыся, ужо бралася за вандзэлкі, мальберт, падрамнік, выстаўленыя за дзверы. Мужчына адхіліў яе няўлоўна, сабраў усё ў абедзве рукі гірляндамі і панёс уніз, да машыны. Юля яшчэ пастаяла нейкае імгненне разгубленая, сагнуўшы плечы, як пад каромыслам, гатовая цягаць на сабе, натурачыся, што можа абысціся — і павінна — без чужой дапамогі. «Няхай ж бы я хоць кубак кавы прапанавала... — слабка падумалася. — А, незнаёмы чалавек... ну, прыяцель сяброўкі... што яму бавіцца, час марнаваць на госці... казала, мусі, лётчык... шкада, імя не памятаю...»

Не любіла адлучацца, але трэба пачынаць дачны сезон — дзедава хата пустуе ўсю зіму.

Мужчына яшчэ раз адчыніў дзверцы, калі яна ўжо сядзела ззаду, нахіліўся блізка пад нізкай столлю машыны, каб паправіць ейную пакладзь, адно пацягнуў да сябе, другое вышэй падняў — нагам стала слабадней. Не паспела адхіліцца /ледзь на калені не апёрся!/, збянтэжыцца, — і чужога не пачула, бы анёл парадкаваўся. У люстэрку насупраць бачыла ўвесь час ягоныя ціхія галубовыя вочы, без зрэнак, бы толькі што пасля лёгкага сну з галавой пад шызым скрыллем. «Вельмі ўжо тыповы лётчык... каб чорт на форму не знёс, часам...» «Не дзьме? — адчыніў акно. — Можа, печку ўключыць?» «Не, не, не, дзякую». Так звыкла зняў увесь клопат, як галаўны боль, ні аб чым не думалася. Нешта гаварыў, нязначнае, можна было не адказваць, і дрэнна чулася, нічога потым не магла ўспомніць. Толькі стомлена бачыла, як ён іншы раз ускідваў галаву, гледзячы ў высокае люстэрка. Выдавалася, яны стаяць блізка насупраць адзін аднаго, зазіраючы ў твар пры нейкай надта крэўнай размове. Вандзэлкі на выбоінах — «паветраных ямах» — краталіся з усіх бакоў, як на возе. «Каб хаця фарбы не патаўчы...» Брала зло, што, пэўна, не ўпаліш дровы, дым будзе паўзці на хату, пакуль трапіць у сыры комін. «Занадта прыгожы мужчына...» Не, такія ёй не падабаліся. Яна магла б змоўчаць яму, каб і невядома што якое, не адазвацца, сядзела, як баба кірмашовая, укуліўшыся — абы даехаць, абы не пехатой.

Што гэта быў сёлета за год ці, можа, два? Якая пара? Атрэсла з рук пярсцёнкі, пацеркі ў пеляну, падазвала да сябе дачку, цацкалася разам з ёй. Недзе зшарылася дарагая завушніца — не шкадавала. Устане, шморгне з падала ўбок, страсе з сябе залатыя пырскі. Адарваўся верхні гузік у блузцы, паляцеў далоў, як спелая ягадзіна, — не падымала. Зачэсвалася густым грэбнем, валасок да валаска, бы ўвесь час на вялікім ветры стаяла, падцінала кучары, усё вясёлае, гулёнае ад чужога вока, каб нічога прываблівага, прыкметнага. Так лягчэй увайсці ў натоўп, уціснуцца, як зьнікнуць. Ад роду сарамлівая, зараз сустракалася вачыма з мужчынамі, і нічога ўжо яе не кранала, не палохала. Нават падабалася гэтая незалежнасць, — ужо спэўнілася яна, што няма ейнага, адзінага, на свеце чалавека, нечага прыглядацца, прыхарошвацца. І сэрца не балела, калі ўспаміналася наўдалае замужжа. Толькі сціплая няёмкасць, бы занадта падрабязна ведае нейкую чужую любоўную гісторыю. Спахоплівалася: на яе ўжо ніхто не азіраецца, як раней, быццам і не ходзіць побач, а можа, і зусім не існуе? І зноў гэтая вялікая вада, павольная плынь жыцця, несла, праносіла паблізу людзей, вясёлых, сумных, гаманкіх, яна, як у дзяцінстве, ляжала на спіне, утрымліваючыся на адным месцы, і ёй да дарослых з іх сустрэчамі, каханнем, не было аніякай справы. Любіла глядзець у неба, на аблокі. Яны плылі, рухаліся кожную хвіліну, мянялі выгляд. Вось, дурона, укуліўшыся ў сабаччу запрэжку, строячы пыхі, едзе з разяўленым ротам стары вылюдак. Санкі набок, вываліўся, ляжыць дагары, перабірае нагамі, як дзіця... Вось усё неба ў ружовых пялёстках — аблятаюць яблыні ў райскім садзе... Ейны чалавек, пэўна, таксама павінен быў з'явіцца не з боку людскога натоўпу, а адтуль — з-пад аблокаў... «Чые гушкалкі?» — пыталіся людзі ў яе, ужо немаладой жанчыны, ведаючы, што і дачка вырасла. Вісяць, зачапіўшыся вяроўкамі за сукі дрэва, заляцеўшы бязмерна высока. «Гэта ж і забіцца можна...» Вядома, ейныя, яшчэ дзявочыя арэлі спыніліся, ледзь гойдаюцца на ветры...

Пыталіся сябры, што зараз малюе, яна палохалася, бралася тлумачыць: вось хоча пейзаж... хаты... дрэва... птушкі прыляцелі... і зяляніна вясновая, як пушок на вербных катках... А атрымоўвалася... восень. Партрэт дачкі? Падобна, вельмі, казалі, падобна, але яна бачыла: кроў быццам не ейная, сядзіць прыгожанькая чужая натуршчыца, а не дачка. І кветка белай півоні побач гэткая ж нежывая, як бант у касе: не паравая, прымусова разгорнутыя пялёсткі, без характэрнай вясковай вясельнасці, а заўсёды ж сярод лета, сярод даўгога стала на першы дзень застолля, — як без імя — кветка.

Што за пара? Выдавалася, што ўжо і не загаворыць ні да кога, як нямко.

Прыехалі, знеслі клункі, ужо развітваліся, калі раптам ускочыла суседка з вёскі, Кацярына /яна глядзела за хатай/, адчыніла падполак, бясконца дзівячыся:

— Глядзіце, людцы, Юльча! Драбіна скінута ўніз, і дзежка з мачонымі яблыкамі ўверх дном!

І сцены быццам цэлыя, а вада тут, пэўна, аж кіпела падышоўшы. Хіба што з самага мора яе прынесла з белай кучаравай хваляй па пяты. Веснавая, шалёная, яна і ў шклянцы бабскай бяды наробіць.

— Хоць ты яе было замаўляй! І насос спусцілі, і вёдрамі выносілі, — расказвала гаваркая Кацярына, а сама празрыста так паглядала ў вочы, маючы другое наўмя. У вёсцы абы мужчына нагой у хату, то ўжо і жаніх.

Не паспелі агледзецца, як той ужо быў у падполку, падымаў драбіну, ставіў усё на месца, лёгенька, звыкла так. Выскачыў, рукі насоўкай выцер і... паехаў, не паспелі і ручніка падаць. Суседка не магла апамятацца. Прызвычаеная да сварьі, матаў, век як праз голаў той ейны мужык куляецца, усю работу робіць нехаця, і яна яго коціць гэткага, папіхаючы, узаплечкі ходзяць, бораюцца ўсё жыццё. Чалавек як зломак. А калі што і зробіць, то хоць ты яму бутэльку стаў, бы які прыхадзяка ў хаце. Каб ён калі захінуў яе, забег наперад, як гэты чужы мужчына. Стаіць сама на ўвесь панадворак, як ліпа, днюе і начуе, правіць гаспадарку, жыляецца, вымагаючыся. Пройдзе з рэзгінамі, а за ёй аж след на камені мокры.

Яна яшчэ доўга пыталася пра лётчыка, пэўна, часта быў на памяці. Юля нешта адказвала, амаль нічога болей не ведаючы, сяброўка, праўда, неяк гаварыла, што ён ваяваў у Афганістане. «Божа, няўжо гэты анёл там страляў?! Пэўна, стаяў недзе каля брамы, сустракаў душы загінуўшых, выпрабоўваў, каб усе трапілі ў рай... Такі добры чалавек...» — дзівілася Кацярына.

Воблакі над вёскай так нізка, лятуць хутчэй, цень адкідваецца на зямлю, бы ад вялікага птушынага крыла. Адусюль чуюцца ў полі танюткія, дробныя гукі. Не выводзячы аніякай мелодыі, у захапленні, кожны сам сабе, адным строем, бы толькі яшчэ спрабуючы смычок, пяюць-іграюць самавукам вясновы баль вясковыя музыкі-жаўрукі. Сумна, быццам чуеш самую ўлюбёную песню сваёй маці, якой ужо даўно няма на свеце. І табе ўжо да скону не далучыцца да вяселля пад гэтую музыку, як калісьці было ў дзяцінстве. А спадзявалася, што ў вёсцы акрыяе. Натрапіла, ідучы ў лес, на тапалю, тая стаяла, абчапаўшыся цветам — чырвонымі кутасамі, бы нявесела абхінуўшыся старым шалікам, нетрывушчыя брынды тлелі і пад нагамі. Бела пад дубамі ад пралесак, а наўмя як на тое, даўнейшае: некалі, расказвалі старыя людзі, забілі вясной у вайну млынара, тут недзе і закапаны. І цяпер грыміць ягоны млын. Сцёрся камень на жорнах, трашчыць жвірам. Укіне птушка дзікае зярнятка — увесь свет белы ад вальцаванай мукі, як на радаўніцу заслана.

Пакарацелі ейныя сцежкі, лес зрабіўся непрыхілкі. Стаіць удзень і ўночы, блізка каля хаты, стаіць з нейкай незаўважанай дагэтуль сумнай урачыстасцю, хоць і ты сам спаць не кладзіся, агонь не гасі, бы ў вёсцы нябожчык начуе. Знарочыста вярталася на змроку, і ўжо быццам весялей, цемра не пужала, бы ўдвух прыйшоўшы, прывёўшы некага з лесу. Адной хадой /толькі каб не бегчы!/, той самай глухой сцежкай і праз лес, і праз панадворак, і праз хату. Нешта прыручанае, амаль свойскае ў гэтым пераходзе на змроку. Лясны страх пасля ўжо не тоіцца, не стаіць пад вокнамі, ён як дзікае кацяня, толькі во што не прылашчыш. І жаба рудая ідзе да парога на змроку, яна ўлюбіла халадацца пад гумовым дыванком, ідзе прысадзіста, марудна пакідаючы ззаду лапу, бы на нагах з вялікай ступнёй ад самага калена. Ідзе пільнуючыся, каб ніхто не бачыў, зараз, выдавалася, рэзка азірнецца, перад самым парогам — і сэрца пакоціцца, пазнаўшы погляд вядзьмаркі з таго канца вёскі. Дом, як нежылы.

Прачнулася яна ў тую ноч перад самым світаннем. Не тое, каб не спалася. Што гэта, хіба — птушкі?! Але ж надта яшчэ зарана, можа, хто спудзіў? Галасы не пеўчыя, птушкі, прачнуўшыся, яшчэ проста перагаворваліся паміж сабой, коратка так, дзелавіта, звыкла. Галасоў большала, ужо, пэўна, цэлы птушыны натоўп. Зусім незнаёмае асвятленне ў пакоі, ноч увачавідкі перакідвала свае ўборы, спяшалася, яшчэ зіхацела юлёвая зорка — самая дарагая начная пацерка. Выдавалася, што чуе, як адляцеў кажаном пад бэльку сон. Чула, як чуюць сляпыя атожылкі хмелю высокую апору, — аднекуль набліжаўся магутны рух. Жывое навокал падымалася, паварочвалася насустрач яму тварам, чакала. Незвычайная цішыня. Усё быццам прачытвалася, як на паперыне, моўчкі, аднымі вуснамі. Так чытаюць лісты кахання. Магутны рух набліжаўся, гул ішоў па самай зямлі, нізка, бы пешшу, пад гару. Бліснуў першы прамень, быццам паказаўся, нарэшце, з-за пагорка хрэсны ход, урачыста несучы наперадзе пазалачоны абраз. Зіхацелі пратэсы...

Нешта зараз здарылася... Ляжала нерухома, ранішні водар запоўніў пакой. Спахапілася, калі змерзла, ложак, лапнула, халодны, бы і не начавала, толькі што вярнуўшыся са спаткання. Няўжо пакахала таго анёла? Божа, навошта, жанаты чалавек, дзеці, нічога больш пра яго не ведае... Жарт — у машыне правёз, драбіну з падполку дастаў. Не было ж аніякага знаку... І наогул, усё вельмі звычайна.

Лётала па ваду, мыла бялізну, фіранкі. Голас зязюлі, як у пустым памяшканні: усё вынесена з хаты, ператрасаецца, мыецца, сохне, пустыя пакоі, чыстыя, толькі два галасы жаночыя: «ку-ку!», а можа — мужчынскі і жаночы, ад сцяны да сцяны, ад вакна да вакна. Падушкі на лаву, посцілкі, сяннік, польты з шафы. Будзённа так, аб нечым учарашнім, звычайным, аднаслоўна: «ку-ку, ку-ку, ку-ку!» А слухаць хочацца. Ад адной сцяны пустога лесу да другой, з аднаго канца пустога поля — да другога. Заляцелі дзве сініцы на веранду, ледзь выправадзіла, і сёння, бачыць, былі: абтрэсены аберуч букет чаромхі на стале. Жар-птушанём сядзіць на кусце, зацвітае чырвоны бухматы мак, па яйку ягоная лопнутая шалупайка долах. Ужо і кароў выганяюць да ракі. «Ого-го-о! У поле! У поле!» — знарок аднастайна, працягла, зыкам, берасцяным рогам выпрастаўшы ўсё сваё нутро, ходзіць каля статка стары Вінечка. Быццам тут, перад ім, поле, воля і табун бясконца вялікі. Нараджаецца даўнейшы голас гону, вялікага перагону, каб не спынілася каторая, не змарылася, не адлучылася каб. А сам, забываючыся, стаіць на адным месцы, круціцца з ранку да вечара — няма пашы, не выдзелілі. І ўвесь статак на вачах, рабымі фасолінамі ў жменьцы. Пастухова вясенняе мроіва...

Учора чула раніцай салаўя. Хадзіла каля ягонага кустоўя, не заўважала, што мокрыя ногі. Вярталася дамоў — і ўжо суха, нехта як вяршок лыжкай, зняў з травы расу. Пужалася гэтай вясновай радасці, весялосці, ужо, думалася, не дазволена табе такое вось чыстае шчасце. Так пакаянна, са слязьмі радуешся ў храме, прымаючы прычасце, калі побач з табой у адной чарзе бязгрэшныя дзеці. І няўжо праўда лятуць да нас птушкі з цёплай стараны за тысячы вёрст, каб напіцца талай вады, адмыслова патрэбнай ім дзеля прадаўжэння свайго роду? Такой ціхай, амаль непрыкметнай, з мелкімі беражкамі, дзе-небудзь у полі ці каля лесу пастаіць дзень-два на адным месцы — і ўжо малочная трава адскочыцца. Густая вада, яе і вецер не калыша, аж, выдаецца, саладжавая, бы нектар, сабраны па кроплі на паверсе чорных сот зямлі. І яна сама прыляцела-такі, нарэшце, з свайго краю, — два гады няспыннага смутнага пералёту. «Цэлы падполак заспела цудоўнай вады ў хаце...» — смяялася сама сабе.

— Не ведаеш, Юльча, чаго Зінка старая ў лес пайшла? Можа, па елачку комін чысціць — у лесе ж яшчэ пуста? — пераймае даходная да ўсяго на свеце Кацярына. — І жарт — такая здаровая — узяла і пайшла бадзяцца!.. Ты сама, Юльча, адмянілася, як была прыехаўшы. Думала, што хворая. Аж перабарола сябе, вясёлая, бачу... Зіна састарэла, як мужыка пахавала. Баба цікавая. Як узлуецца на сябе, конскі шчавук карчуе каля плота, а так сядзіць утравеўшы, аніяк не абароніцца. А трэба б упільнавацца, каб семя ягонае не саспела, не насеялася... Так і маркота бабская... Я, калі надумаюся, вазьму, аж у грудзях займіцца, дык звару сабе што-небудзь смачнае — і палягчэе.

Не далей, як учора старая Зіна казала, па-змоўніцку блізка падышоўшы, як дзеўка:

— Ён, салавей, пад лістом сядзіць, перакуліцца і — пяе. А яшчэ ж ліст малы. Але пайду сёння да ракі слухаць...

Перасаджвала кветкі, мяркуючы дзе каторую, а самой раптам падумалася, аж работу з рук спусціла: «Бог, пэўна, паслаў гэтае неспадзяванае, як у юнацтве, кароткае каханне...» Перабірала ўсё ў памяці, зайшоўшы ўжо задалёка збоку. «Жыва будзеш і па гэтым...», як сказала б суседка Кацярына. Шчодра адкінула ад сябе ўсе магчымасці бачыць таго анёла. Думалася, цяжка, удзячна — па-сялянску, — як зямля набрынялая пасля доўгачаканага ліўня.

Мусова было б ехаць у горад па харчы, але не хацелася адлучацца: трэба да астатняга дабыць тут, дагледзець, як цвітуць сады. Бо кожны дзень, як вялікая навіна, — трэба брацца за эцюднік. Вось і сёння з раніцы ішоў буйны, рабы дождж. Куры высыпалі на вуліцу, як толькі ён перастаў, ходзяць рухава, спяшаюцца адна перад адной, бы ім тут падсыпалі свежую жменю. Клён насупраць акна ўжо сёння ў шырокім, расхрыстаным адзенні, цені ад лісця ляніва кратаюцца па студні, сонца скрозь бліскаўкамі, быццам вада стаіць блізка, як у пасудзіне, з беражкамі, калышацца, зіхаціць на сонцы. Далёка ўбок, сарваўшы з пяцелек, аднесла лёгкім дыхам фіранку на адчыненым акне. Зляцела з падаконніка блакітнае птушынае яйка, знойдзенае ў лесе, і не пабілася. Яна амаль бачыла, як лёгка, гулёна, толькі што веснічкі не ляпнулі, зайшло на панадворак... Лета. «Трэба будзе букет змяніць...» — падумалася, быццам толькі зараз адцвіла ў стаўбуле вясновая лотаць, кветкі ўнікліва слаліся па днішчы стала, шукаючы ручаіну талай вады.

Рукапісы не гараць

# ЗНОЙДЗЕНА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

Пра Мацея Радзівіла — таленавітага музыканта і літаратара, значнага палітычнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, што жыў у Нясвіжы ў другой палове XVIII ст., — мне ўжо даводзілася пісаць у «ЛіМе». Спачатку — як пра кампазітара, аўтара цудоўных інструментальных твораў /паланезаў, Дывертысмента для камернага аркестра, Серэнады для струннага квартэта і Санаціны для скрыпкі ды фартэпіяна/. Потым — як пра лібрэтыста оперы «Агатка» /музыка Я. Голанда, пастаўлена ў Нясвіжы ў 1784 г./. Прыгадвалася імя М. Радзівіла і на фестывалях «Адраджэнне беларускай капэлы», дзе гучалі ягоныя паланезы і Дывертысмент, і на канцэртах ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле», які з вялікім поспехам выконваў творы нясвіжскага аўтара не толькі на Беларусі, але і далёка за яе межамі.

Сёння я зноў звяртаюся да спадчыны гэтага кампазітара, каб пазнаёміць усіх, каго цікавіць ягоная музыка, з двума невядомымі ў нас раней паланезамі для фартэпіяна. Рукапісы гэтых твораў разам з рукапісам яшчэ аднаго, ужо выдадзенага, захоўваюцца ў Нямеччыне, і атрымаць іх ксеракопіі ўдалося дзякуючы дапамозе супрацоўнікаў Варшаўскай бібліятэкі Нарадовай, якія мэтанакіравана займаюцца мікрафільмаваннем і апісаннем музычных помнікаў у розных бібліятэках свету.

Фартэпіянныя паланезы М. Радзівіла, як і аркестравыя, створаны ў 1788 г. і прысвечаны саксонскаму курфюрсту Антонію ды прынцэсе Ганне /таму, відаць, і трапілі ў нотазборы Нямеччыны/. Пры першым знаёмстве з рукапісам адразу можна заўважыць падабенства трох паланезаў: усе яны заснаваны на мініяцюрных памерах /літаральна на пару аркушаў/, вельмі простыя для выканання. Аб'ядноўвае іх і адзіная «белая» танальнасць — До мажор, і агульнасць вобразнага ладу, надзвычай светлага і прамяністага. Праўда, першыя два паланезы больш урачыстыя і парадныя, у сваёй фанфарнасці яны маюць пэўнае падабенства з аркестравым паланезам «Паляванне», пра які я раней пісала. Трэці ж, апошні фартэпіянны паланез, больш лірычны і летуценна-празрыс-







*Так выглядае новая знаходка — тытульны аркуш з прозвішчам Радзівіла і прысвячэннем высокім асобам ды сам нотны рукапіс.*

ты. Ён выклікае параўнанне з маленькімі партрэцікамі, намаляванымі акварэльнымі фарбамі, якія з'яўляюцца зрокавым сімвалам стылю ракако. Увогуле, какецтва і грацыёзнасць, празрыстасць і расквечанасць музычнай тканіны шматлікімі «упрыгожаннямі», — усё гэта сугучна ракайльнаму стылю, што набыў шырокае распаўсюджанне ў мастацтве Беларусі другой паловы XVIII ст.

Зрэшты, падрабязны аналіз твораў яшчэ наперадзе. У перспектыве — і выкананне іх у канцэртах ды вучэбных класах. Сёння ж звярну ўвагу вось на якую акалічнасць. У Нямеччыне захоўваецца не адзін помнік музычнага мастацтва Беларусі XVIII ст. І варта было б заняцца справай іх вяртання /хоць у выглядзе фотакопій/ на Беларусь. Таму прашу ўсіх, хто можа ў гэтым дапамагчы: **тэлефануйце, пішыце ў «ЛіМ»**, звяртайцеся са сваімі прапановамі. Пакуль яшчэ не спарахнелі тыя рукапісы і не змяніліся правілы па іх выкарыстанні, як гэта адбылося ў некаторых бібліятэках рэспублік СНД.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

# ТЭАТР І АДРАДЖЭННЕ

***«Тэатральнае мастацтва Беларусі і праблемы нацыянальна-культурнага адраджэння» мусяць падпасці пад пільную ўвагу спецыялістаў і тэатральнай грамадскасці. Канферэнцыя з такою назвай ладзіцца 15—16 лістапада супольна Саюзам тэатральных дзеячаў Беларусі і Міністэрствам культуры рэспублікі з чынным удзелам тэатральных крытыкаў. Аднаго з тых, хто непасрэдна рыхтуе будучыя спрэчкі і справаздачы, — доктара мастацтвазнаўства Рычарда СМОЛЬСКАГА, наш карэспандэнт папрасіў адказаць на некалькі пытанняў.***

**— Рычард Баляслававіч, што абумовіла і падрыхтавала спатканне ў Астрашыцкім гарадку?**

— Перадусім я б зазначыў, што тэатральная сітуацыя ў рэспубліцы складалася і развівалася пад знакам вялікіх перамен у нашым творчым саюзе — Саюзе тэатральных дзеячаў Беларусі. Памяняліся і прынцыпы работы, і падыходы да яе. Бракуе сродкаў. А самая спецыфіка мастацтва тэатра вымагае, як ні смешна гэта гучыць, спатканняў творчых людзей, — абмеркаванняў, асэнсаванняў, ацэнак зробленага. Ёсць, аднак, і больш пільная прычына. Гэтаксама як наша дзяржава Беларусь абірае свой сённяшні шлях, так і нацыянальны тэатр... Як мусіць ён суправодзіць Беларусь у незалежнасць? Што абумовіла беларускія асаблівасці — лапці ды цымбалы або Сапегаў Статут Вялікага княства Літоўскага ды Скарынава Біблія? Дзе і як мусіць быць ды чым з'яўляцца мастацтва: складнікам, авангардам, найменнікам, ружавікам, шыльдаю? Не кажу ўжо пра тое, што на подступах да так званай рынкавай эканомікі трэба проста ведаць, як з тэатрам у яе ўмовах абыходзіцца. Як і што будзе далей? Вось прычыны для збору тэатральнай грамадскасці і абмеркавання стану тэатральнай справы ў атуленні парасткаў нацыянальна-культурнага адраджэння... Можа, якраз місія нашага тэатральнага пакалення — падрыхтоўка глебы для пакаленняў наступных? Падстаў ды нагод, як бачым, больш як трэба...

**— Ідэю, відавочна, падтрымала Міністэрства культуры?**

— Думаю, менавіта Міністэрства культуры Беларусі сёння — асноўная і галоўная апора творцаў ад тэатра і ў пэўным сэнсе фундатар тых станоўчых працэсаў, якія адбываюцца ў тэатральным мастацтве, — згадаем тут і дзяржзаказ, і фінансаванне, і шмат што іншае...

**— Хто возьме ўдзел у канферэнцыі?**

— Перадусім — рэжысура, хоць бы таму, што першапачаткова мы збіраліся шукаць паразумення з нацыянальнаю рэжысураю: зрэшты ніхто ж усур'ёз не стане аспрэчваць значнасць і вызначальнасць рэжысёрскай асобы ў тэатральным працэсе. Падчас падрыхтоўкі вымеркавалася, што ёсць сэнс сабраць прадстаўнікоў усіх тэатральных прафесій — ад драматургаў да акцёраў, ад адміністратараў да тэатразнаўцаў. Паўдзельнічаць мусяць і прадстаўнікі Расіі, Украіны, Летувы.

**— А з чым гэтая тэатральная грамада мусіць, так бы мовіць, падступацца да такой далікатнай справы?**

— Прынцыповым для канферэнцыі зробяцца канцэптуальныя справаздачы нашых вядучых майстроў рэжысуры — Б. Луцэнкі, В. Раеўскага, В. Маслюка, В. Мазынскага, В. Цюпы. Па праблемах творчай падрыхтоўкі кадраў чакаем выступлення У. Забэлы. Лідэры студыйнага руху В. Грыгалюнас, М. Трухан, Р. Таліпаў гэтаксама абяцаюць узяць чынны ўдзел у нашай рабоце. Праблемы драматургіі асветліць С. Лаўшук /натуральна, будзе яшчэ шмат людзей з самымі цікавымі прапановамі/. Мяркую, што ўжо пералічэнне гэтых імёнаў дае магчымасць меркаваць, наколькі карысная і значная падзеяй станецца наша тэатральнае мерапрыемства. Акрамя таго — паколькі канферэнцыя будзе доўжыцца два дні, — шмат хто з жадаючых атрымае слова.

Мяркуецца абмеркаваць і паставіць у цэнтр увагі наступнае: што такое нацыянальна-культурнае адраджэнне і як яно суадносіцца або суіснуе з сучаснай беларускай сцэнай. Пытанняў тут і праблем — надзвычай шмат. Хто і як вызначае для сябе працэс беларусізацыі ў тэатральным мастацтве, гэтаксама як і працэс суверэнізацыі Беларусі, — якая ў гэтым працэсе роля належыць сцэнічнаму мастацтву? Развіваць нацыянальную свядомасць? Мацаваць патрыятызм? А ў сувязі з апошнім якою мусіць стацца перабудова тэатральнай свядомасці, — няўжо новай кан'юнктурай? Ці сумяшчальныя з'явы — мастацтва і ўлада? Якою мусіць быць грамадская функцыя сучаснага тэатра — як той казаў, сцвярджаць або апаніраваць ладу, дзяржаве, уладзе? Варта паразважаць і наконт беларускай драматургіі апошніх гадоў. Што напаткала нас — крызіс ці зацішак перад новым узлётам, выбухам, вышынёй? Адкрыццё новых тэатраў вылучыла перадусім, як ні дзіўна, старыя тэатральныя праблемы як з рэжысурай, з акцёр-

# ВАРЫЯНТ, ВАРТЫ ЎВАГІ

## ЯКІМ БЫЦЬ ДЗЯРЖАЎНАМУ ГІМНУ? ДУМКА МУЗЫКАНТА

***Вядома, што рашэннем Журы конкурсу на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь тэрмін конкурсу прадоўжаны да 15 лістапада і ў якасці тэкстуальнай асновы твора прапанаваны верш Янкі Купалы «Маладая Беларусь». З гэтай нагоды рэдакцыя атрымала ліст вядомага музычнага дзеяча, мастацкага кіраўніка Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання «Беларуская Капэла» лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Віктара СКОРАБАГАТАВА.***

Кожны з нас неаднойчы чуў гімны розных краін свету. Тры-чатыры і праспяваць можа, ды толькі мелодыі, бо гімн ва ўяўленні людзей — гэта музыка са словамі, а не наадварот.

Гімн — вершы, а ўскосна і музыка, — на мой погляд, павінен адпавядаць наступным патрабаванням: адлюстроўваць менталітэт і годнасць народа; ён не павінен быць агрэсіўным у адносінах да іншых народаў; не можа і мець такія словы, як «слёзы», «кайданы», «журба», «палон» і да т.п.; павінен быць актуальным на ўсе часы і быць простым як для ўспрымання, так і для спявання.

Верш Янкі Купалы як літаратурная аснова гімна не вельмі ўдалы. І вось чаму.

Словы: «Не пужае суседзі дакучны сусед» нясуць у сабе ўнутраную напружанасць у адносінах да суседзяў, з якімі нам сябраваць, а не канфліктаваць трэба. Далей. Як быць са словамі: «Падымайся з нізін»? Па-першае, падняліся ўжо, калі ўжо маем дзяржаўнасць. Падругое, дапусцім, яшчэ трэба падымацца. Дык што рабіць з гэтым радком, калі падымемся? Як быць са словамі «Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі» тады, калі гэты пасад Беларусь зойме? /Маё меркаванне — дык ужо й заняла/. Няўжо тады давядзецца зноўку пісаць гімн?

Але ж гімн — гэта песня, якая не ствараецца на кожны дадзены палітычны момант. Да таго ж, тое, пра што Купала марыў, для нас — рэчаіснасць.

Яшчэ адно меркаванне адносна верша Купалы. Ён вельмі складаны і абавязкова паставіць шэраг праблем перад кампазітарамі, а потым узнікнуць праблемы для выканаўцаў: гэта відавочна.

Дарэчы, на вершы Купалы напісана не адна сотня музычных твораў, але на гэты верш існуе толькі адзіная харавая партытура, створаная А. Багатыровым. Тое, што гэты твор не стаў такім папулярным, як многае іншае, напісанае шаноўным маэстра, якраз, можа, і пацвярджае думку аб немэтазгоднасці выкарыстання «Маладой Беларусі» ў якасці літаратурнай асновы Дзяржаўнага гімна.

З таго часу, як быў аб'яўлены конкурс на стварэнне гімна Рэспублікі Беларусь, я сачыў за адпаведнымі публікацыямі і звяртаў увагу на тое, што трапляла ў рукі выпадкова. Лічыў, што ёсць два дастойныя прэтэндэнты на музычны сімвал нашай дзяржавы. Гэта «Магутны Божа» М. Равенскага — Н. Арсеннявай і паланез «Развітанне з радзімай» М. Кл. Агінскага. Але...

«Магутны Божа» ўжо стаў гімнам усіх беларускіх хрысціян незалежна ад канфесіі, што й зафіксаваў магілёўскі Міжнародны фестываль хрысціянскай музыкі «Магутны Божа». І паколькі наша дзяржава не з'яўляецца артадаксальна рэлігійнай, у такім сэнсе, як, напрыклад, Іран, — пытанне з гімнам «Магутны Божа» /калі яго лічыць рэлігійным/ адпадае само сабой. Рэлігійны гімн не можа быць у дадзеным выпадку дзяржаўным. Вядома ж, гэта маё асабістае меркаванне.

Што датычыць паланеза М. Кл. Агінскага. Назва «Развітанне з радзімай», хаця і дадзеная не аўтарам, але гістарычна зафіксаваная ў нашай свядомасці. Такая назва не дае магчымасці бачыць гэты, сапраўды геніяльны твор у якасці гімна. Праўду параль з цяперашнім нашым гімнам. Мелодыя яго досыць добрая і адпавядае патрабаванням жанру. Але калі я вось ужо даволі працягла час чую яго без слоў, то ў галаве ўсё роўна вольна ці міжволі гучаць словы: «Нас аб'яднала Леніна імя» і г.д. Вось і ў дачыненні да паланеза назва яго, як бы мы ні жадалі на яе забыцца, усё роўна застанецца. І як у такім разе класіфікаваць гэты твор? Нішто сабе дзяржаўны гімн, нішто сабе дзяржава, якая развітваецца сама з сабой у адным з найважнейшых дзяржаўных атрыбутаў! Таму, на маю думку, і гэты варыянт не падыходзіць.

Не так даўно мне ў рукі трапіў яшчэ адзін варыянт. Як на мой густ — дык найцікавейшы з тых, што я чуў. Пачуццё годнасці народа адчуваецца ў кожным радку верша. Ніякага ляманту і скаргаў на сваё жыццё. Павага да іншых народаў сусветнай супольнасці і да т.п.. А музыка! Гэта ж цуд, як спалучаецца мелодыя XVII ст. /узятая з «Полацкага сшытка»/ з сучаснымі словамі. Уражвае абсалютная еднасць гэтых твораў і на эмацыянальным, і на духоўным, і нават на практычным узроўні.

Дыяпазон мелодыі такі, што дазваляе

скай адпаведнасцю памкненням ды пошукам рэжысуры, так і з падрыхтоўкай гэтага самага акцёра: хто, як, чаму вучыць моладзь? Ці ў сценах акадэміі мусіць гартавацца артыст, ці больш прыдатнай была б для гэтага гарту пляцоўка тэатра? Вынікае тут і пытанне пра беларускую акцёрскую школу, — творчы эксперымент, акцёрскі канфармізм, супрацьстаянне тэатральных пакаленняў... Нельга не згадаць і пра рускую сцэну Беларусі, і пра ўзаемаўплывы нацыянальных сцэнічных культур, і пра студыйны рух, і пра неабходнасць тэатральных рэформ... Натуральна, гаворка пойдзе і пра тэатральны рэпертуар, і пра рэпертуарную палітыку, і пра кіраванне тэатрам, і пра ролю ды функцыю галоўнага рэжысёра, мастацкага кіраўніка мастацкага савета ў тэатры... Як бачым, гаварыць ёсць пра што. Не апошнім пытаннем мусіць зрабіцца і дзейнасць Саюза тэатральных дзеячаў: новыя падыходы, а вынікі работы?.. Не стану хаваць, у некаторых тэатральных калектывах з'яўляецца ідэя ўтварэння альтэрнатыўнага тэатральнага саюза... Я асабіста лічу, што сёння нешта новае ствараць немэтазгодна хоць бы з той простай прычыны, што старое, звыклае не вычарпала яшчэ сваіх магчымасцяў.

**— Якая звышзадача спаткання на канферэнцыі?**

— Падрыхтаваць тэатральную грамадскасць і яе свядомасць да карэнных змен у творчым жыцці — да грунтоўнай тэатральнай рэформы. Дзяржаўная мадэль тэатра выклікае шчырую прыязнасць нашых замежных калег, але, як усё манапольнае, гэтая мадэль з цягам часу таксама вымагае змен. Акцыянерныя, антрэпрэнёрскія, прыватныя і да таго падобныя тэатральныя мадэлі мусяць усур'ёз заахвочвацца... Пытанне — кім? Чым? А каб не згубіць адказаў на пытанні, вырашана матэрыялы канферэнцыі выдаць асобнай брашурай. На яе ўжо знайшліся выдаўцы і сродкі.

**Гутарку вяла Жана ЛАШКЕВІЧ**

---

яе спяваць любому, яна лёгка ўспрымаецца і запамінаецца. Ёсць у ёй адчуванне немалога ўзросту народа беларускага і нашай дзяржавы. /Дарэчы, няўжо члены Журы згодныя з думкаю, што толькі цяпер Беларусь стала дзяржаваю? Ці не адсюль назва — «Маладая Беларусь»?/. Ёсць у мелодыі той аптымістычны патэнцыял стваральнай энергіі, які быў і заўжды неабходны будзе для твора такога зместу.

Практыка кантамінацыі пры стварэнні гімна ў свеце існуе. Назаву тут гімны Аўстрыі ды Германіі. Ё. Гайдн, якому належаць мелодыі абодвух, зразумела, ніводнага не пісаў. Увогуле, гімн спецыяльна напісаць, пэўна, немагчыма. Толькі тое, што прайшло выпрабаванне часам, здатнае стаць асновай такога важнага твора, як дзяржаўны гімн. Але тут я падкрэслю яшчэ раз, што гэта мае асабістыя меркаванні. І тым не менш прапаную звярнуць увагу паважаных членаў Журы на той варыянт, які сумяшчае мелодыю з «Полацкага сшытка» і верш, падпісаны /магчыма, псеўданімам/ «Даніла Оўнуч»:

**Лёс выпрабоўваў цябе, Беларусь:**
**Ты цярпліва пракладвала шлях да святла,**
**Дружбу вітала, мінала хаўрус,**
**Мужна, сумленна і сціпла адвеку жыла.**

**Божа, ратуй ад бяды і спакус:**
**Хопіць гісторыі нашых нягод,**
**Хай людства бачыць цябе, Беларусь,**
**Бачыць цябе, беларускі народ!**

**Выйшла з бяспамяці сну уначы,**
**Светла сябе, як даўней, сваім імем завеш,**
**Хочаш яго ў чысціні зберагчы,**
**З вераю ў заўтрашні дзень свой жывеш.**
**Божа, ратуй ад бяды і спакус...**

**Памяццю продкаў законы ствараў,**
**Мудрасцю крыўду спыняй**
**дзеля братняй любві,**
**Сцяг і Пагоню высока трымай,**
**Годна і слаўна між роўных навечна жыві!**

**Божа, ратуй ад бяды і спакус...**

**З павагай,**

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

---

Выставы

# НЯМЕЦКІ «ПРЫЛІЎ» ДА НАШЫХ БЕРАГОЎ

***Калі раней пры словах: «Германія», «немец» узнікалі перад вачыма кадры кінахронікі 1941—1945 гадоў, дык зараз Германія — гэта гуманітарная дапамога, Чырвоны Крыж, культурныя, эканамічныя, чалавечыя кантакты. Падобна, што распачаўся новы нямецкі «прыліў» да нашых берагоў. Гэта і цешыць, і хвалюе. Якія яны, немцы? Спакойныя, упэўненыя ў сабе заходнікі /«весіс»/ і гаманкія, імпульсіўныя ўсходнікі /«осіс»/ — гэта, зразумела, вельмі спрошчаны вобраз нашага заходняга суседа. Трэба шмат сумеснай працы, каб пераканацца ў нямецкай абавязковасці, сумленнасці, пунктуальнасці, і ў сваёй уласнай практычнасці, працаздольнасці, еўрапейскасці, бо ў нашых кантактах з усходнімі суседзямі гэтыя рысы раней проста не маглі праявіцца...***



*Георг ГРОС. Фрыдрыхштрасэ. 1918.*

Каб зразумець народ, трэба ведаць ягонае мастацтва. А нямецкія мастакі не баяцца дзеля маральнага аздараўлення нацыі выкрываць непрывабныя з'явы жыцця, якія, зрэшты, можна было б схаваць ад чужых вачэй ці праявіць пэўную лаяльнасць да «кепскага, але свайго». Не, шлях праз пакуты сумлення і шчырую споведзь дазваляе ачысціць душу і дапамагчы ўсім іншым, каму не стае рашучасці.

Лепш зразумець Германію дае магчымасць шэраг выстаў нямецкай графікі XX стагоддзя, распачатых у сакавіку экспазіцыяй «Графіка нямецкага экспрэсіянізму». Яна і наступныя выставы падрыхтаваны Інстытутам нямецкай культуры імя Гётэ ў Маскве, Інстытутам міжнародных зносін у Берліне пры ўдзеле Штутгартскай дзяржаўнай мастацкай галерэі, Пасольства ФРГ у Беларусі і Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі.

Мне асабіста было цяжка вызваліцца ад самаіранічнай думкі, што мы, жывучы ў цэнтры Еўропы, паводзілі сябе як нейкія астравіцяне, амаль стагоддзе хаваючыся ў чаротах ад нечага незразумелага і нібыта страшнага /як тубыльцы ад караля ці самалёта/ — ад экспрэсіяністычнай дэфармацыі, *антынатуральнасці* і яе абвостранага псіхічнага ўздзеяння. І нават паверыць цяжка было, што гэта сапраўдныя творы самых адчайных экспрэсіяністаў у першым пакаленні. І, як памятаю, арганізатары выставы не ведалі, з якой аўдыторыяй маюць справу з якім псіхалагічным вопытам, густамі сутыкнуцца.

Хоць выстава экспрэсіяніскай графікі ўжо дваццаць гадоў вандруе *з краіны ў краіну*, да нас, на Беларусь, яна трапіла ўпершыню. Таму, на ўсялякі выпадак, спадарыня Эвэлін Фішэр прачытала з дапамогай перакладчыцы на адкрыцці цэлы рэферат на тэму «як трэба разумець экспрэсіянізм». Слухаючы прадстаўніцу берлінскага інстытута, падумалася, што такія элементарныя рэчы мы ўжо даўно прайшлі. Хоць ніхто асабліва за экспрэсіянізм афіцыйна не агітаваў, але неяк засвоілі, зразумелі, эмацыянальна падрыхтаваліся сустрэцца нарэшце з аўтэнтычнымі творамі вядомых нам /як гэта прыемна канстатаваць!/ нямецкіх авангардыстаў.

Немцы прывезлі класіку. Графіка Эрнста Людвіга Кірхнэра, Карла Шмідта-Ратлуфа, Эрыха Хэкэля, Макса Пэхштайна, Эміля Нольдэ, Ота Мюлера, Васіля Кандзінскага, Франца Марка, Хайнрыха Кампендонка, Пауля Клее, Лайонэля Файнінгера, Крысціяна Рольфса, Оскара Какошкі, Макса Бэкмана, Георга Гроса, Ота Дзікса. Дрэварыты, літаграфіі — іх улюбёныя графічныя тэхнікі. Пачатак стагоддзя, — тады нарадзіліся творы, што экспанаваліся ў Мінску. А здавалася, што яны зусім новыя, «свежыя». Некага ўразіў лідэр суполкі «Мост» Кірхнэр, нехта аддаў перавагу сябрам «Сіняга вершніка» В. Кандзінскаму і Ф. Марку. Іншыя зацікавіліся містыфікаванымі кампазіцыямі з канатаходцамі і фантастычнымі зданямі П. Клее, або знаходзілі нешта падобнае да архітэктуры Заслаўскай Прэабражэнскай царквы ў архітэктурных кампазіцыях другога сябра баўкаўсаўскай суполкі «Сіняя чацвёрка» Л. Файнінгера. Дарэчы, самы колкі, сечаны, антыанатамічны экспрэсіянізм суцішваецца ўжо ў канцы 1910-х гг. Наступнае дзесяцігоддзе — гэта не столькі выяўлены ў крыку ўнутраны канфлікт, колькі псіхалагічнае паглыбленне ў маўклівыя станы душы. У М. Бэкмана ці А. Какошкі аднаўляецца чалавечае аблічча, разбураныя гратэскавасцю, *зведзенае да знаку*. Тое ж самае можна прачытаць і ў прыродных назіраннях, што падаюцца праз суб'ектыўнае ўспрыманне. Экспрэсіянізм як вялікая мастацкая з'ява тады ўжо пасталеў, стаў больш жыццёва стойкім, нават узважаным. Але — не акадэмічным. У яго свая, непахісная «анатомія», якая не прымае ніякіх канфармісцкіх выкрутаў. Толькі пачуццёвая і глыбокая праўда ва ўсім, да чаго ён дакранаецца сваім мастацкім дыханнем.

Наступная выстава была прысвечана графіцы Федэратыўнай Рэспублікі Германія 1960-х гг. Вядома, добра тое, што на пачатку 1960-х гадоў трэцім лідэрам сусветнага поставангарда стала Заходняя Германія, як не дзівіліся гэтаму французы з амерыканцамі, што між сабой дзялілі першынство і ўпарта спрачаліся за яго. Немцам было цяжэй, чым іншым. Ціснуў баласт негатыўнага вопыту, комплекс віны, псіхалагічны дыскамфорт у міжнародных стасунках. Але дзеля справядлівасці трэба прыгадаць, што на другое сусветнае вогнішча бярвенні і паліва прыносіла ўся Еўропа /і не толькі Еўропа/. Запалку ж паднеслі самыя дысцыплінаваныя і пунктуальныя. Ім жа праз пакаянне даводзілася здабываць сабе годнае месца ў свеце.

60-я гады для нямецкага мастацтва пераломныя. Графіка — гэта глыбокі адбітак той часіны. Не было сумненняў, што арганізатары выставы прывезлі самае ўзорнае, лепшае, паказальнае. Поруч з самімі творамі ўдосталь было каталогаў з самай канструктыўнай інфармацыяй.

Гюнтэр Юкер з Дзюсельдорфа быў у пэўным сэнсе «цвіком» выставы. Менавіта кампазіцыі з цвікоў прынеслі яму вядомасць. У графіцы ён карыстаецца *прыёмам ціснення*. Выразна, вобразна, проста. Традыцыйна гэта лучыцца з кніжнай графікай. Ён — рэфарматар графікі станковай, ён увогуле схільны рэфармаваць усё, да чаго мае творчы імпэт. Таму так уражваюць ягоныя «Дождж», «Снег» і іншыя «цвікаадбіткі» на паперы, творы па духу вельмі экспрэсіяніскія.



*Гюнтэр ФРУТРУНК. Дыяганальная структура.*

Другі дзюсельдорфец, Конрад Клапэк, запомніўся раней з публікацыі ў часопісе «Гутэн Таг». Там разглядаўся яго жывапіс. Тут — графічныя выявы розных машын і тэхнічных прыладаў ад праса да гусенічнага трактара. Надзвычай паслядоўны і цэласны свет механізацыі, які, як і людскі свет, сталее, мяняецца, мадэрнізуецца. Праз яго можна *зразумець* і працэсы, якія тычацца і нашых асабістых духоўных механізмаў, чалавечага жыцця. А вядзецца даследаванне з нямецкай дакладнасцю і метадычнасцю.



*Вольф ВОСТЭЛЬ. «Алімпійскія гульні III»*

Сярод іншых найперш трэба назваць патрыярха нямецкага пасляваеннага графічнага сінтэзу супрэматызму і оп-арту — Ёзэфа Альбэра. Яго каляровыя кампазіцыі пад агульнай назвай «У гонар квадрата» не патрабуюць асаблівых тлумачэнняў. Гэта было ў 1966 г., у нас жа пачынае адраджацца гонар за наватарскі «віцебскі квадратызм» напрыканцы 1980-х гг. Зараз можна зразумець сутнасць такой мастацкай эстафеты, якую, дарэчы, працягвалі ў 60-х гг. таксама мюнхенцы Рупрэхт Гайгэр і Гюнтэр Фрутрунк. Інтэнсіўны кантрастны колер, плоскасныя формы, зведзеныя да дыяганальных палос, квадратаў, колаў — іх нефігуратыўна-выразны геаметрычны графізм. Няма дробязяў, але ёсць нервы часу.

Былі сярод 15-ці прадстаўленых аўтараў і фігуратывісты. Але іх стылістыка надзіва чыстая ад фігуратыўнага трохмернага эклектызму. Лепшы твор Хорста Антэса з Карлсруэ — «Фігура з дзвюма шклянымі шыбамі», што як бы прасвятляюць тонкую псіхалагічную тканку душы самапаглыбленай асобы. Традыцыі абвостранага псіхалагічна-экспрэсіўнага ўмяшальніцтва ў справы рэчаіснасці вырашаюць графікі з Гамбурга Хорст Янсэн і Паўль Вундэрліх.

Драматычна разбурае спакой і раўнавагу пазапраблемнай эстэтыкі Вольф Востэль /1932/, які ў сваіх буйнамаштабных шаўкаграфіях увасабляе трагедыю чалавецтва на прыкладзе калажных фотаматэрыялаў амерыкана-в'етнамскай вайны.

Такім чынам, выстава нямецкай /ФРГ/ графікі 60-х гадоў паказала розныя выніковыя тэндэнцыі і яскравыя індывідуальнасці, што зрабілі вялікі прарыў не толькі ў нямецкім, а *шырэй — у міжнародным мастацтве, свабодным* ад палітычнага ўціску. Немцы ў гэты час засталіся верныя сваёй экспрэсіяністычнай уражлівасці і чуйнасці на многія сутнасныя праблемы пасляваеннай рэальнасці, але пайшлі значна далей за яе вузкія параметры і сталі ў гэтым руху паўнавартаснымі лідэрамі. Выверааны і чысты стыль кожнага з кірункаў у аўтарскім вырашэнні дазваляе лёгка пазбавіцца забабоннага страху выйсці за межы салонных стылізацый пад авангард і там, у шырокай эксперыментальнай прасторы стаць сапраўднымі авангардыстамі. Разам з тым, не можа не насцярожыць імкненне арганізатараў гэтай і наступнай выставы — «Нямецкая графіка 70-х гадоў», лічыць, што Германія гэта толькі яе заходняя частка — ФРГ. У 60—70-ыя гады і да самага знікнення Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі з палітычнай карты свету, там



*Конрад КЛАПЭК. Паравы прас «Цешча».*

працавала цэлая плеяда выдатных майстроў графікі, мастакоў рэалістычнай школы. Чаму іх творы мы не пабачылі на выставах нямецкай графікі? Відавочна, што трэба весці гаворку аб пэўнай ідэалагічнай тэндэнцыі ў культурнай палітыцы кіраўніцтва аб'яднанай Германіі, аб палітычным ігнараванні культурных здабыткаў ГДР. А што бывае, калі мастацтва падпарадкоўваецца ідэалогіі, мы ведаем з уласнай гісторыі...

**Віталь БОГУШ**

*Фотарэпрадукцыі У. ПАНАДЫ*

Думка чытача

# АБ «БРАЦКІХ ПАЧУЦЦЯХ» І СПАЖЫВЕЦКІХ ІМКНЕННЯХ

Нядаўна ў сродках масавай інфармацыі з'явіўся зварот шэрагу грамадскіх, палітычных і прамысловых структур Беларусі да кіруючых колаў краін былога СССР з прапановай неадкладна стварыць канфедэрацыю. Маўляў, з-за таго, што ва ўсіх краінах былога СССР нарастае «усеагульны развал», «дэзінтэграцыя і дэстабілізацыя», ім трэба зноў аб'яднацца. Але ж краіны, якія актыўна праводзяць эканамічныя рэформы, дасягнулі ўжо пэўных поспехаў. Беларусь жа тым часам кацілася і працягвае каціцца ў бездань. Прычыны? Вельмі замаруджаныя тэмпы пераходу да рынкавай эканомікі. Не праведзена прыватызацыя, а значыць, не атрыманы сродкі для ўвядзення і падтрымкі ўласнай валюты. Багацце рэспублікі, якое ствaралася самаадданай працай некалькіх пакаленняў, альбо праядаецца, альбо пацягу «прыхватызуецца» кіруючай наменклатурай. Неверагодна высокія падаткі не даюць развівацца прамысловасці, у выніку — не ствараюцца новыя працоўныя месцы, што ў хуткім часе прывядзе да выбуху беспрацоўя. Не праводзіцца структурная перабудова эканомікі ў адпаведнасці з існуючымі рэсурсамі і інтэлектуальным патэнцыялам. Многія калгасы сталі банкрутамі і не могуць далей існаваць.

У гэты ж час нават велізарная, абцяжараная мноствам нацыянальных, рэгіянальных і палітычных праблем Расія дасягнула пэўных поспехаў у эканоміцы. Яшчэ большыя поспехі маюць адносна спакойныя і стабільныя краіны Балтыі. Дастаткова сказаць, што жыццёвы ўзровень у сённяшняй Беларусі не дасягае і паловы расійскага, і ў чатыры разы ніжэйшы, чым у Латвіі.

Замест правядзення эканамічнай рэформы беларускі ўрад займаецца яе імітацыяй. Замест пошукаў інвестыцый, пастаўшчыкоў сыравіны і рынкаў збыту ўрад дэмагагічна тлумачыць эканамічныя беды толькі ліквідацыяй старых гаспадарчых сувязей і разбурэннем СССР. Пры гэтым замоўчваецца, што сувязі, усталяваныя камандна-адміністрацыйнай сістэмай, разарваліся не толькі паміж рэспублікамі, а таксама ўнутры Расійскай Федэрацыі, і галоўная прычына разрыву — іх ненатуральнасць, нерацыянальнасць і неадпаведнасць умовам рынкавай эканомікі. Ніякая канфедэрацыя не здолее гэтыя сувязі аднавіць, бо нялдольная прымусіць прадпрыемствы мець справы з нявыгаднымі партнёрамі.

Асноўная праблема Беларусі — не ў разрыве былых гаспадарчых сувязей, а ў адсутнасці кваліфікаванай, самастойнай і кампетэнтнай эканамічнай палітыкі. Урад, які складаецца з былой партыйнай наменклатуры, няздольны дзейнічаць у рынкавых умовах. Да сённяшняга дня ён не адчувае сябе ўрадам самастойнай дзяржавы. Адсюль такое непераадольнае жаданне ўтварыць канфедэрацыю, каб нехта ў цэнтры па-ранейшаму вырашаў за яго ўсе пытанні, што дало б яму магчымасць надалей бязбедна існаваць.

Калі ўдзельнікі звароту сцвярджаюць, што народам былога СССР немагчыма выжыць без адзінай дзяржавы — гэта адкрытая дэманстрацыя палітычнай інфантыльнасці і спажывецкіх імкненняў праўрадавых колаў, якія дарэмна спадзяюцца, што Расія, з пачуцця «брацкай дружбы», забяспечыць Беларусь таннай нафтай, спіша даўгі ды скупіць нікому не патрэбную прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў; іншымі словамі — пасадзіць «брацкую Беларусь» сабе на шыю і павязе да заможнага жыцця.

Гэтыя спадзяванні не толькі марныя /бо расійскае кіраўніцтва, у адрозненне ад кіраўніцтва беларускага, добра ўсведамляе ўласныя дзяржаўныя інтарэсы/, але і несумленныя ў адносінах да Расіі. Пад маскай разважанняў аб агульнасці гістарычных шляхоў, аб братэрстве і ўзаемным даверы хаваюцца спажывецкія спадзяванні, што расіяне, і без таго абцяжараныя ўласнымі праблемамі, узваляць на плечы яшчэ і цяжар беларускага эканамічнага крызісу, інспіраванага ў значнай ступені няўдалай палітыкай урада.

Беларускі і расійскі народы маюць цесныя і разнастайныя сувязі, між імі даміную пачуццё сімпатыі, якое не залежыць ад наяўнасці дзяржаўных меж. Аднак нацыянальна-дзяржаўнае развіццё кожнага народа — яго асабістая справа. Стварэнне расійска-беларускай канфедэрацыі, да якой наўрад ці далучыцца хоць адна з краін былога СССР, не з'яўляецца неабходным для ўзнікнення ўзаемавыгаднай эканамічнай інтэграцыі, хутчэй, наадварот, перашкодзіць ёй, бо рынкавыя рэформы на Беларусі не ідуць. Беларусі не трэба ператварацца ў адсталую расійскую правінцыю, як бы добра ні ставілася да нас Расія: інтарэсы цэнтра заўсёды дамінуюць над інтарэсамі правінцыі.

Інтэграцыя краін былога СССР — гэта шлях эфектыўных эканамічных рэформ. Каб спыніць дэзінтэграцыйныя працэсы, трэба спыніць эканамічны занепад. Да таго ж, прыклад Еўрапейскага супольніцтва яскрава сведчыць — для стварэння актыўных ўзаемавыгадных эканамічных, навуковых і гуманітарных адносін паміж краінамі не трэба ствараць адзінай дзяржавы, дастаткова пэўнае эканамічнае, навуковае і культурнае развіццё, пэўны ўзровень цывілізаванасці, да якога павінны імкнуцца краіны былога СССР.

Аднак замест эфектыўнай рэфармісцкай палітыкі ўрад Беларусі, здаецца, гатовы пазбавіцца апошняй перавагі, якую яшчэ не страціла наша краіна, — палітычнай і грамадскай стабільнасці.

Не трэба шукаць вырашэння эканамічных праблем адміністрацыйнымі шляхамі, бо немагчыма вярнуцца ва ўчарашні дзень. Некампетэнтнасць урада Беларусі ўжо дорага каштуе народу і ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Беларусі патрэбен кваліфікаваны, адказны ўрад народнага даверу, які здолее выкарыстаць дадзены нам гісторыяй шанц самастойнага дзяржаўнага і эканамічнага развіцця.

Менавіта таму выканкам ЦР БСДГ звярнуўся да ўсіх дэмакратычных партый, рухаў і арганізацый з прапановай правесці рэспубліканскую канферэнцыю, прысвечаную праблеме стварэння кааліцыйнага ўрада народнага даверу ў мэтах пошуку выйсця з эканамічнага, энергетычнага і палітычнага крызісу.

**Т. ПАЛЯКОВА,**
**член Цэнтральнай Рады БСДГ**

Віншуем!

## УЛАДЗІМІРУ НАВУМОВІЧУ — 50



Празаік, крытык, даследчык літаратуры... Так можна вызначыць творчае амплуа Уладзіміра Навумовіча. Прыхільна была сустрэта чытачамі і крытыкай яго аповесць «Такое бывае аднойчы», выпушчаная асобнай кнігай. У гэтым творы аўтар ішоў ад уласных назіранняў, прыгадваючы той час, калі студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў час летніх канікулаў у складзе студэнцкіх атрадаў выязджаў на цаліну. Таму і атрымаліся такімі пераканаўчымі вобразы студэнтаў Васіля Струменя, Жэні Яснага і іншых. Асабліва прываблівае галоўны персанаж аповесці Раман Назорка. Ён з тых людзей, для якіх высокая маральнасць, жаданне жыць па высокім рахунку сумлення заўсёды на першым месцы.

Даследчыцкія ж намаганні У. Навумовіча скіраваны як на аналіз сучаснага літаратурнага працэсу, так і на асэнсаванне асобных момантаў гісторыі літаратуры. З яго навуковых напрацаванняў варта вылучыць манаграфію «Шляхам арлянят. Проза «Маладняка», у якой па-новаму прачытваецца творчасць маладнякоўцаў, разглядаецца ў кантэксце тагачасных палітычных і мастакоўскіх стасункаў.

Віншуем спадара Навумовіча з юбілеем, жадаем яму поспехаў як у творчай, так і ў выкладчыцкай дзейнасці!

## Наш каляндар

1 лістапада — 125 гадоў з дня нараджэння беларускага гісторыка, археолага і даследчыка беларускай культуры Дзмітрыя ДАЎГЯЛЫ /1868—1942/. З 1913 года — старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі. У 1915 пераехаў у Магілёў, працаваў у архіве. З 1925 года — супрацоўнік Інбелкульта, з 1929 — дырэктар бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі. Першы даследаваў гісторыю і гістарычную тапаграфію полацкіх, Барысаўскага, Свіслацкага і Аршанскага замкаў. Адзін са складальнікаў «Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах» /Т.1, 1936/.

8 лістапада — 85 гадоў з дня нараджэння паэта Міхася БАГУНА /1908—1938/. Пачаў друкавацца ў 1925 годзе. Выйшлі кнігі паэзіі «Рэха бур» /1931/, «Рэвалюцыя» /1932/, «Выбранае» /1961/. Асобнай кніжкай убачыла свет апавяданне для дзяцей «Жэнька» /1934/. Займаўся перакладамі.

12 лістапада — 170 гадоў з дня нараджэння беларускага і рускага этнографа, пісьменніка, публіцыста, тэатральнага крытыка Паўла ШПІЛЕЎСКАГА /1823—1861/. Асноўная кніга П. Шпілеўскага «Путешествие по Полесью и белорусскому краю» перавыдадзена выдавецтвам «Полымя» ў 1992 годзе ў серыі «Літаратурныя помнікі Беларусі».

17 лістапада — 100 гадоў з дня нараджэння настаўніка, вучонага, палітычнага і грамадскага дзеяча Канстанціна ЕЗАВІТАВА /1893—1946/. Пісаў вершы.

19 лістапада — 85 гадоў з дня нараджэння паэта Міколы ЗАСІМА /1908—1957/. Актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага рэвалюцыйнага руху ў былой Заходняй Беларусі. Пачаў друкавацца ў 1926 годзе ў часопісах «Маланка», «Аса», іншых заходнебеларускіх выданнях. Выйшлі кнігі паэзіі «Ад шчырага сэрца» /1947/, «Вершы» /1954/, «Выбранае» /1960/, «Вершы» /1973/.

20 лістапада — 275 гадоў з дня нараджэння лекаркі, аўтара мемуараў Саламеі РУСЕЦКАЙ /1718—пасля 1760/. Кніга С. Русецкай /ПІЛЬШТЫНОВАЙ/ «Авантуры майго жыцця» выйшла ў 1993 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

26 лістапада — 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра ШАХАЎЦА /1918—1991/. Выступаў у галіне паэзіі, прозы, займаўся перакладчыцкай дзейнасцю. Неаднаразова выходзілі як арыгінальныя творы, так і перавыданні. У прыватнасці, у 1978 годзе пабачыў свет «Выбраныя творы» ў двух тамах.

115 гадоў з дня нараджэння беларускага святара і паэта Андрэя ЗЯЗЮЛІ /1878—1921/

З пошты "ЛіМа"

# ТУГА ПА СТРАЧАНАЙ ПРАФЕСІІ

Маю няшчасце канстатаваць: знікла ці вось-вось знікне прафесія экскурсавода. Не, музеі па-ранейшаму стаяць на сваіх месцах, хоць тым, хто ў іх працуе, не пазайздросціш. Гаворка пойдзе пра экскурсаводаў шматлікіх бюро падарожжаў і экскурсій, што былі раскіданы па вялікай краіне, як любілі казаць, ад Брэста да Курылаў.

У 70—80-ых гадах, калі яшчэ непахісныімі былі Берлінская сцяна і «жалезная заслона», мы, не маючы магчымасці вандраваць па замежжы, пераказвалі турысцкі бум унутры Савецкага Саюза. І, дарэчы, турызм тае пары нёс у сабе агромністы пазнаваўчы патэнцыял для масы «простых людзей». Перагортваю сёння турысцкія буклеты часоў «застою» і зноў хачу вярнуцца ў Пецярбург Пушкіна і Дастаеўскага, у спякотную Хіву і паэтычны волжскі Плёс, на Сахалін, у Львоў, Талін...

Сустрэчы з калегамі, прафесіяналамі найвышэйшага класа, на Салаўках, у Нідзе ці пад Уманню засталіся ў памяці як свята. Уражанні ад гарадоў, звычаяў, сустрэчы з іншымі людзьмі і прыродай — вось тое каштоўнае, што дарыў савецкі турызм усім, хто ў яго акунаўся. Існавала асаблівая парода лёгкіх на пад'ём людзей.

Але я быў бы няшчырым, калі б не сказаў пра тое, што пазнаваўчы турызм — турызм з экскурсаводам — быў хітрамудра ўбудаваны ў машыну прапаганды і агітацыі «савецкага ладу жыцця» і з'яўляўся яе неад'емнай часткай, інструментам ідэалогіі Сістэмы. Сёння пра гэта смешна казаць, але нават у мастацтвазнаўчых, гістарычных, архітэктурных і літаратурных экскурсіях, звернутых у далёкае і нават вельмі далёкае мінулае, было недапушчальна не згадаць «мудрую партыю» і не працытаваць выказванні чарговага партыйнага манарха. Зрэшты, большасць экскурсантаў прапускала гэтыя акафісты міма вушэй, прымаючы іх як непрыемную непазбежнасць.

Вось чаму ледзь толькі галоснасць адмяніла гэтыя абавязковыя паклоны партыйным абразам, ледзь толькі выклікала яна з нябыту столькі новых-старых імёнаў, як акрылялі экскурсаводы, як нарадзілася шмат найцікавейшых маршрутаў.

У 70—80-ых гадах у Мінскім бюро падарожжаў і экскурсій, дзе мне давялося тады працаваць, былі створаны дзесяткі маршрутаў, якія ўвабралі ў сябе мінуўшчыну краю, яго паданні, помнікі і старажытныя гарады, дзівосныя куткі прыроды, прафесійныя і аматарскія музеі. Суцэльныя пласты культуры, сузор'е імёнаў адкрываліся нам, экскурсаводам, у сумесных з навукоўцамі вандроўках па маршрутах «Залатое кальцо Беларусі», «Дойлідства Нарачанскага краю», «Ажываюць сівыя стагоддзі», «Ад рэнесансу да класіцызму». У гэтых падарожжах мікрафон у рукі бралі А. Мальдзіс і А. Грыцкевіч, М. Ткачоў і А. Трусаў, Г. Штыхаў і У. Дзянісаў, Э. Вецер і В. Чамярыцкі, дый многія-многія іншыя. Дасюль беражна захоўваю нумар «ЛіМа» за 3 жніўня 1979 года са своеасаблівай справаздачай А. Мальдзіса аб адной з такіх вандровак пад назвай «Ці быць такім маршрутам?»

Мяркую, што сярод чытачоў «ЛіМа», безумоўна, знойдуцца тыя, хто разам з Тамарай Лемеш прайшоўся памятнымі сцежкамі Адама Міцкевіча, пабываў у Туганавічах і на берагах Свіцязі, блукаў па вулках старажытнага Навагрудка, хто ў суправаджэнні Дзіяны Васілевіч адкрываў для сябе Верхні горад у Мінску, падымаўся на валы Мірскага замка або заходзіў пад велічныя скляпенні нясвіжскага Фарнага касцёла; кім апекавалася на літаратурных і краязнаўчых маршрутах Ірына Круглякова — заўсёды ўдумлівая, няўрымслівая... Зрэшты, пра кожнага з калегаў можна сказаць нешта адметнае, бо выпадковых, абыякавых людзей гэтая прафесія не прымала.

З распадам Савецкага Саюза скончыўся і ўнутрысаюзны турызм, а рост цэнаў на паліва, чыгуначныя і авіяцыйныя білеты, гатэлі і харчаванне прыкончыў і мясцовыя, рэспубліканскія маршруты або, прынамсі, звёў іх да зусім нязначнага ўзроўню, блізкага да нуля. Зноў з'явілася заслона, толькі зробленая ўжо з іншага, ды не менш трывалага за жалеза, матэрыялу. На змену пазнаваўчаму турызму з усімі яго адкрыццямі і здабыткамі, выдаткамі і недасканаласцямі прыйшоў турызм камерцыйны — са сваёй публікай і абслуговым персаналам. Бюро падарожжаў і экскурсій або фактычна закрыліся, або заняліся арганізацыяй шоп-тураў.

Пра гэты шматпакутны, смешны, горкі і зняважлівы для годнасці асобы бізнестурызм пісана-перапісана зухаватымі журналістамі з выкарыстаннем блатнога жаргону, прынятага ў асяроддзі «крутых» дамарослых каміваяжораў. Аднак гэта — асобная тэма.

А што ж сталася з маімі калегамі? Людзі, што трымалі ў галаве безліч найцікавых звестак, разышліся па школах, дзіцячых садках, папоўнілі музеі, штаты пакаёвак у гатэлях. Нехта заснаваў ці ўвайшоў у фірмы па вытворчасці шоптураў. Нехта зусім з'ехаў за мяжу...

Аднак калі мы збіраемся разам, а гэта здараецца ўсё радзей і радзей, нас грызе туга па страчанай прафесіі. Ей, гэтай прафесіі, бы уласцівы дух рознакаляровага, чароўнага кірмашу са знакамітага шлягера Марылі Радовіч.

Ці вернецца яна? Упэўнены — так. Але не хутка. І ў іншым абліччы. Бо, як вядома, жыццё прыгожае таму, што можна вандраваць.

**Анатоль ВАРАВА**

# ЯНКА КУПАЛА — РЭАЛЬНАСЦЬ І МІФЫ

Георгій КОЛАС

*Міф з дзікунскай Акіяніі: «Юнак памяняў свае вочы на птушыныя і прычапіў да носа дзюбу чаплі. Цяпер юнак ужо не быў чалавекам. Ён стаў птушкай».*

Чым бліжэй было да камунізму, тым дружней старалася савецкае купалазнаўства адшліфоўваць міфы пра савецкага «шчаслівага» Купалу, зводзячы іх у адзіны, цэльны, бездакорны наркатычна-сацрэалістычны міф. Знак наркатычнай якасці — на ўсіх артыкулах купалаўскага энцыклапедычнага даведніка, на ўсіх купалазнаўчых манаграфіях, на зборніках дакументальных успамінаў, на мастацкіх творах пра Купалаў лёс.

Цяпер, калі камуністычны монстр канае пад скляпеннямі чарнобыльскага саркафага, тое самае савецкае купалазнаўства, не паспеўшы скінуць са свайго раскормленага макацёру бальшавіцкі шлем, з панічнай ліхаманкавасцю напінае на сябе калючы, выдраны з зямлёй, куст цёрну: во якія мы былі пакутнікі, ён быў такі ж, як мы, і мы былі, як ён...

Пра міфатворчую свядомасць нашых першабытных продкаў этыялагісты кажуць, што яна служыла ролю пазнаваўчай функцыі ў вытлумачэнні свету. Апаненты этыялагістаў бачаць у той самай пазнаваўчай функцыі — зародак «дэміфалагізму» міфа, і даводзяць, што міфалагічныя ўяўленні папярэднічалі логасу, выдаючы сваю суб'ектаваную прадукцыю за аб'ектываваную рэальнасць.

Сацрэалістычны міф — як мул, народжаны ад скрыжавання гэтых дзвюх гіпотэз. Ён, пакуль жывы, пакорліва працуе, але ж ён — бясплодны, бо ў сваім ядры не мае пазнаваўчае міфемы.

Антысацрэалістычны /альбо «постсавецкі» / міф — той самы мул, хіба што з дзюбай акіянскай чаплі, але вочы тыя самыя. Ён, колькі б ні стараўся строіцца пад беларускага каня і колькі б ні даводзіў радаводную ад валаамскае асліцы, не народзіць зноў ні жарабяці, ні асляці.

... Міф — рэальнасць. Як яны ўзаемадзейнічаюць?

Параўнаем два ўспаміны пра Купалу. Першы — з кнігі ўжо даўно вядомай /зборнік «Успаміны пра Янку Купалу». Мінск, 1982, складальнікі А. Кулакоўскі і Н. Цвірка/. Другі — са зборніка, які прыйшоў да нас крыху пазней, але равеснік першаму /«Янка Купала і Якуб Колас. Вянок успамінаў пра іх». ЗША, 1982, складальнік і рэдактар А. Калубовіч/.

Дзве асобы пішуць пра адну падзею — пра Купалаў юбілей. Паэт Сяргей Грахоўскі і музыка-кампазітар Мікалай Шчаглоў.

Пачнём з паэта:

*«Быў цёплы і ціхі май. Адцвіталі сады, ружовымі і белымі воблачкамі курыўся бэз. Над горадам стаяў водар вясны і першых навальніц. У гэтыя дні шырока адзначалася трыццацігоддзе творчай дзейнасці Купалы.*

Напярэдадні афіцыйных вечароў Купала запрасіў блізкіх людзей дадому, каб па-сямейнаму адзначыць угодкі свае творчасці...»

Магчыма, варта было слова **«напярэдадні»** — падкрэсліць, бо музыка памятае гэта крышачку інакш:

*«Ня ведаю, чыя гэта была думка — перанесьці **заключную** /Г.К./ юбілейную вечарыну ў хату самога юбіляра. Думка, праўда, была б зусім ня дрэнная, каб усё ў Саветах ня мела свайго адваротнага боку.*

*Радыёкамітэт да гэтае выдумкі дадаў сваю: перадаць з кватэры Купалы прабег сьвяткаваньня на ўсю БССР».*

Здаецца, драбяза — якая з вечарын была «заключная», якая «напярэдадні», але ж адно — калі «Купала запрасіў» /тады ён — аднапарнік з радыё-ініцыятарамі/, і зусім ужо не тое, калі ініцыятыва ў правядзенні вечарыны і трансляцыі зыходзіла Бог ведае адкуль.

Паэт паведамляе так:

*«Пра гэта /што Купала «запрасіў», і — «напярэдадні». — **Г. К.** / дазналіся работнікі радыё і папрасілі дазволіць транслiраваць вечар адразу ў эфір. Гуказапісу тады яшчэ не было, значыць, слова, сказанае ў мікрафон, не выражаш, не вернеш, не адрэдагуеш. Як адважыліся на такую перадачу работнікі Камітэта і гаспадар, уявіць цяжка. Але трансляцыя адбылася».*

Кампазітар кажа быццам тое самае, але нібы «падказвае» паэту — пра «адвагу»:

*«На гэтую пару радыёперадачы беспасрэдня з кватэраў былі ў БССР «цудам тэхнікі» й таму знайшлі падтрыманьне й у партыйных колах».*

Міф яшчэ не пачынаецца, але яго зародак — «падтрыманьне й у партыйных колах» — ёсць: трансляцыя ў эфір павінна «адрэдагаваць» сама сябе, ды загадзя, — павыразаўшы ўсё неадпаведнае такому «падтрыманьню». Тут ужо папахвае не «ініцыятывай», а партыйнай дырэктывай, пра якую ў кампазітара крыху вышэй было: «Гэта ня жарты. Хочаш ці не, а мусіш рабіць. Хай гэты юбілей будзе пасьля пахавінаў ці, наадварот, пахавіны пасьля юбілею — што загадае партыя, тое й мае быць». Ды і пра тое, сам Купала пераносіў юбілейнае мерапрыемства ў сваю хату, альбо «нехта» зверху, і пра тое, хто рабіў падбор гасцей — у кампазітара было:

*«Па твару будучага юбіляра — Янкі Купалы — аніяк ня можна было пазнаць, што гэтая пастанова прыйшлася яму да густу. Наадварот, твар паэты быў неспакойны, усхваляваны, быццам гаварыў: «Ой, браточкі, не націскайце вельмі. Я б лепш... таго... гэтага» Але ж хто слухае ў Саветах самога юбіляра? Ён тут нявольнік, як і ўсе. Голас мае адно сапраўдны гаспадар — ЦК партыі. І хай ЦК — зусім не юбіляр і пісаў купалаўскія вершы ня ён, а Купала... але ўся пашана і гонар належаць якраз ЦК, таму што, як у нас казалі, «усе мы пад ЦК ходзім».*

Пра падрыхтоўку да трансляцыі — паэт:

*«Вёў яе кампазітар Ісак Любан. Мяне ўзяў сабе ў памочнікі. Загадзя ў кабінеце паэта ўстанавілі апаратуру, на рассунутым абедзеным стале — мікрафон. Трансляцыя ў апаратную вялася па тэлефонных правадах. На змярканні хату Купалы запоўнілі госці»...*

Слова — кампазітару:

*«Дык вось запрошаныя госьці накіраваліся ў знаёмы ўжо нам купалаўскі дамок. Увайшлі... і «ах» ды «ох»! Бачаць ува ўсю шырыню пакою стол стаіць. А на белым абрусе, Божачка ты мой, чаго, чаго толькі няма! Закускі і халодныя і гарачыя, далікатэсы аж да чорнае ікры, садавіна, тарты, усялякая гарэлка, віны, лікёры. Хоць людзі былі запрошаныя ўсё пачэсныя, але бальшыня зь іх даўно ўжо ня бачыла й ня каштавала такіх нязвычайных прысмакаў. Зь вясёлым гоманам пачалося шуканьне сваіх карткаў, і, нарэшце, усе занялі месцы».*

Тое самае ў паэта /але ж ён — адзін з арганізатараў, таму ў яго — больш падрабязна, і крыху шырэй/:

*«Стол, застаўлены закускамі, зіхацеў прыборамі і крышталёвымі чаркамі. Гасцінная і вясёлая цёця Уладзя ўсіх рассаджвала, улагоджвала, з кожным была вясёлая і гаваркая. Купала, відаць, хваляваўся, бо часта знікаў у цьмяны кабінет, асветлены зялёнымі вочкамі апаратуры, і курыў свой нязменны «Казбек». Я разглядаў шафкі з кнігамі, невялічкі пісьмовы стол, канапу пад клятчатаю посцілкаю. Аж не верылася, што гэта тая «святая святых», дзе творыць Купала, дзе столькі напісана.*

*Калі ўсе сабраліся, гаспадар сеў у тарцы стала паміж двума вокнамі. За спіною стаяў светлы дубовы буфет. Па правую руку паэта сядзеў сакратар ЦВК Максім Ляўкоў, злева — акадэмік Сямён Якаўлевіч Вальфсон. Пасля кароценькага ўступу Любана пачалася звычайная застольная гамана»...*

Тут — стоп. Здаецца, міф ужо пачаўся. Кампазітар гэты момант памятае крышачку інакш:

*«Але тут пачуўся голас:*

*— Таварышы! Нашае юбілейнае паседжаньне будзе трансьлявацца па радыё на ўсю БССР. Таму папрашу быць дысцыплінаванымі й захоўваць парадак і прадугледжаны рэглямэнт. Зараз уключаецца мікрафон.*

*Тут толькі госьці пабачылі на стале чорны зь серабранымі беражочкамі чатырохкутнік — мікрафон, дык, значыцца, і кантроля, цэнзура, органы НКВД. Без паперкі, якая дазволена й падпісаная ўпаўнаважаным Галоўліту, ніводнага слова не дадуць сказаць перад мікрафонам, нават сябру Палітбюро.*

*Пабачылі, што на вакне стаіць яшчэ й апарат, што памацняў гук, а пры ім тэхнік, а побач зь ім яшчэ нейкая незнаёмая постаць...*

*Госьці ў імгненьне згубілі сьвяточны настрой, які выляцеў з пакою як гукі з Аладавае трубы. Стол зьмяніўся адно ў вітрыну савецкага унівэрмагу, на якую можна толькі глядзець, а купіць — нічога ня купіш».*

У паэта ўсё наадварот:

*«Усе забыліся на мікрафон і трымаліся, як і належыць актыўным гасцям. За сталом было шмат артыстаў Першага БДТ /цяпер Акадэмічны тэатр імя Купалы/. Тосты і гаворка змяняліся песнямі. У хвіліну паўзы на сярэдзіну пакоя выйшла маладая статная Вольга Уладзіміраўна Галіна. Задрыжаў, затрымцеў яе ўсхваляваны голас:*

**Не глядзі на мяне, не глядзі, адыдзі,**
**Не чаруй так сабой і на яве і ў сне!**
**Ты смяешся з мяне...**
**Дык ідзі ж, не глядзі,**
**Бо замучыш, загубіш навекі мяне!**

*Гучалі вершы і воплескі, а калі яна дачытала «Спадчыну», падышоў расчулены Купала і пацалаваў руку, артыстка расцалавала паэта. Пасыпаліся дасціпныя жарцікі, падбегла вясёлая цёця Уладзя, пацягнула мужа за крысо: «Няма чаго пры ўсіх цалавацца з маладымі дзяўчатамі!» і сама расцалавала Вольгу Уладзіміраўну. Пакаціўся дружны рогат. Застолле дайшло да таго ўзроўню, калі прыйшлося выключыць мікрафон».*

А вось як памятае момант таго «ўзроўню» кампазітар:

*«Юбіляр-Купала меў найсумнейшы ад усіх гасьцей выгляд. Перад ім паклалі жмут друкаваных паперкаў. Гэта была «ягоная прамова», што напісалі спрытныя й дасужлівыя партыйныя рэдактары й якую ён мусіў выдаць за свае — адданыя партыі й правадыру словы ўдзячнага й шчасьлівага юбіляра.*

*Усё пайшло паводля загадзя зацьверджанага рэглямэнту. Але было такое нуднае, вялае, няцікавае, што нават тыя, каму «ведаць належала», затурбаваліся, каб радыёслухачы не зрабілі якіх непатрэбных высноваў з «хаўтурнага настрою» юбілейнага банкету, і неўзабаве загадана было спыніць трансьляцыю. Тэхнік з апаратам і постаць незнаёмага зьніклі. Мікрафон ўсёткі пакінулі на стале /ужо без дратоў/ дзеля больш урачыстага выгляду. Усё гэта было зроблена няўпрыцям, але людзі даведаліся об «вызваленьні».*

Рэзюме паэта:

*«Больш такіх перадач, здаецца. ніколі не было ў гісторыі радыё, а многія сцвярджалі, што гэта — самая цікавая і натуральная перадача».*

Мо яно і праўда — больш такога не было.

Пра тую перадачу чуў я непасрэдна ад В. У. Галіны, калі быў яе студэнтам. Слухаючы, рагатаў з усімі аднакурснікамі. Потым, калі быў чыноўнікам у Мінкультуры, зноў нарагатаўся, слухаючы тую самую гісторыю ад Я. С. Рамановіча. Яны расказвалі не «пад Грахоўскага», а «пад Шчаглова»:

*«А калі яшчэ й «правадыры» неўзабаве павыходзілі, твары аджылі, павесялелі, рукі пацягнуліся да чаркаў... і пачаўся ўжо запраўдны юбілей нашага паэта. Сьвяткавалі ўсю ноч. Было вясёла: гулялі, віншавалі, уздымалі тосты, абыймаліся, чыталі вершы, сьпявалі песьні».*

Міф, як бачым, склаўся з праўды, — толькі ў выніку перастаноўкі месц складаемых. Сяргей Іванавіч Грахоўскі «пераставіў» іх, відаць, не маючы благіх намераў: без такой перастаноўкі эпізод у кнігу па тым часе не ўвайшоў бы. А сама «перастаноўка», стаўшы фактам публікацыі, спрыяе высвятленню праўды таго часу, дэміфалагуючы яе праз нашы параўнанні з публікацыямі іншых сведкаў. Дзякуй Богу, дачакаліся, чытаем іх таксама...

Але што рабіць, калі пры перадруках тых, заакіянскіх, вольных эмігранцкіх успамінаў пра Купалу — часам выразаюць менавіта тое, што пярэчыць міфатворчым уяўленням падрыхтоўшчыкаў тутэйшых перадрукаў, іхнім «прасавецкім» міфам?

Успаміны кампазітара Шчаглова летась передрукаваў часопіс «Маладосць» /N 7, 1993/. Часопіс гэта падае як «публікацыю», аднак, зірнуўшы ў «Тлумачальны слоўнік» /т. 4, с. 515/, асабіста я трымаюся пераканання, што калі друкуюць з друкаванага /тым болей — з кнігі ды ў часопіс/ — гэта пе-ра-друк. У «Тлумачальным слоўніку», дарэчы, ёсць і прыклады: «Заметку надрукуюць, потым яе перадрукоўваюць іншыя газеты» /Шахавец/, «Леапольд Гушка, праглядаючы газету, прабег вачыма кароткую нататку — перадрук з польскіх газет» /Чорны/. І пра «публікацыю» — таксама тое-сёе ёсць, нават з курсівам: ***«Публікацыя архіўных матэрыялаў. Плаціць за публікацыю».***

Каму плаціць, за што і як, у «Маладосці» самі ведаюць, ды і не ў плаце тут было, відаць, галоўнае, а ў падвышэнні іміджу самога факта «пад акадэмічнасць», — гэта не зашкодзіць як рэдакцыі, так і Барысу Сачанку, які не ўпершыню дае такія «публікацыі».

Барыс Іванавіч адразу папярэджвае: «друкуецца са скарачэннямі». Ніякіх парушэнняў ні акадэмічнай, ні звычайнай журналісцкай этыкі? Чакайце. Пад канец — спасылка на першакрыніцу публікацыі: «Упершыню ўспаміны пад псеўданімам М. Менскі апублікаваны ў газ. «Беларус». Нью-Йорк. NN 5/11—11/17 ад 29 чэрвеня — 20 верасня 1952 г.». Хто захоча, хай шукае таго «Беларуса» саракагадовай даўнасці, каб прачытаць без скарачэнняў. Зрэшты, шукаць не варта, бо даўно ўжо ёсць у мінскіх фондах рэдкай кнігі эмігранцкі зборнік А. Калубовіча, дзе нарыс кампазітара Шчаглова змешчаны без скарачэнняў і з той самаю спасылкай на газету «Беларус», адно паводле правапісу эмігранцка-беларускага, з якога ў «Маладосці» пе-

ракладзена на правапіс савецка-беларускі.

Не спрабуйце здагадацца, з-за чаго Барыс Іванавіч не даў спасылкі на выданне Калубовіча. Спачатку пашукайце, што ён скараціў, і здагадайцеся — чаму?

Цытую зборнік Калубовіча, ст. 73:

*«Развітаньне з роднымі гонямі, упадак духу Купалы на чужыне — сталіся для Купалы апошнім душэўным ударам, якога ён ужо не натрапіў ператрываць. На гэты раз сукрытыя, даўно пешчаныя думкі аб самагубстве, аб скончэньні жыцьця, аб ціхім месцы ў дамавіне — нарэшце, зьдзейсьніліся.*

*Гатэль «Масква», у якім Купала ці раз гасьцяваў як слаўны і заслужаны прадстаўнік Беларусі, стаўся апошнім месцам Купалавае жыцьцёвае трагэдыі».*

Меркаванне не бясспрэчнае, але небеспадстаўнае, бо суіцыд даймаў Купалу неаднойчы — і ў жыцці, і ў творчасці: «Ідзе за мной услед касцісты, бледны труп, — // Як цень, — за мной, пры мне, куды я ні ступлю»...

Пакуль мы не знайшлі бясспрэчных паказанняў пра абставіны Купалавай пагібелі, здагадка кампазітара Шчаглова будзе заставацца сярод іншых як адна з магчымых, нават ці не самых верагодных версій. У яе зацятых апанентаў довады катэгарычныя: «Ні пра якую смерць, тым больш пра самагубства, пра якое сёй-той не толькі гаворыць, а ўжо нават піша /?!/, Янка Купала не думаў».

Вышэйпрацытаваная катэгарычнасць кіравала логікай Б. Сачанкі пры падрыхтоўцы «Публікацыі» ўспамінаў кампазітара Шчаглова ў «Маладосці», і прадвызначыла скарачэнні, бо іменна Б. Сачанку належыць аўтарства вышэйпрыведзенай цытаты. /«Сняцца сны аб Беларусі», с. 177/. Тэма суіцыду не ўмяшчаецца ў ягоную канцэпцыю, закальцаваную на «спасціжэнні і адлюстраванні савецкай рэчаіснасці» /зноў «Сняцца сны...», с. 157/, і калі б, маўляў, не берыеўцы, наш пясняр адсвяткаваў бы трыумфальны юбілей ды цешыўся б, вычытваючы карэктуры новых зборнікаў сваіх вернападданых вершаў, у якіх праз два радкі на трэці — слава, слава, слава партыі ды Сталіну, саветам ды калгасам, дыктатуры ды камуне. Б. Сачанка скарачае ў кампазітара Шчаглова якраз тое, што палемізуе з ім:

*«Цынічнай уладзе гэткія паховіны не перашкодзілі із націскам, настырлівасьцю й нат з нахабствам узяцца зараз-жа за фарбаваньне й самога Купалы і ягонае творчасьці ў найзырчэйшы чырвоны колер, забыўшыся на нядаўныя свае яму дакоры й на «справядлівую бальшавіцкую крытыку». У гэтай бальшавіцкай афарбоўцы Купала сёньня — натхнёны паэта камунізму. Усім і скрозь загадана ўшаноўваць памяць Купалы толькі з гэтага гледзішча, апранаць яго толькі ў чырвоную тогу. Менскі драматычны тэатр атрымаў імя Янкі Купалы. Філіял музэю адчынены на бацькаўшчыне песьняра ў Вязынцы. Рыхтуецца да пастаноўкі п'еса «Шчасьце паэты» В. Віткі /у Шчаглова віткаўскі ініцыял пазначаны з памылкай. —* ***Г. К.*** */, дзе згодна із савецкай крытыкай паказана «барацьба савецкага народу за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне, нараджэньне, і станаўленьне голасу беларускага песьняра Я. Купалы, росквіт ягонага таленту ў умовах савецкае ўлады».*

*Вось якія дзівы расказваюць сёньня аб Купалу савецкія агітатары! Згуба таленту паэты завецца ў іх «росквітам», трагэдыя ягонага жыцьця й сьмерць выдаюцца за «шчасьце паэты»...*

Не ў брыво, а ў вока Б. Сачанку з ягонай апалогіяй Купалавых «прароцтваў» з «Песні будаўніцтву», — пра «а мудрага гісторыка», які — «ужо ідзе» /зноў «Сняцца сны...», с. 168/:

**Ён раскажа, як з творчым імкненнем**
**Для народу закон выдавала**
**Бальшавіцкая праўда, сумленне,**
**Каб жыццё ўжо было без цярпенняў**
**І мінула пракляццяў навала.**

Дачытаем, што пра гэта думалася кампазітару Шчаглову:

*«Нам тут, на эміграцыі, усё гэта добра зразумелае. Шкада толькі, што там, за заслонаю, знойдуцца людзі, што, начытаўшыся Мазальковых і наглядзеўшыся «Шчасьцяў паэты», паверацць у сяброўства савецкае ўлады з Купалам.*

*Праўда, ёсьць, шчыра кажучы, і тут людзі, што паважна дакараюць Купалу ягоную «савецкасьць» ды імкнуцца абнізіць ягоную ролю ў беларускай паэзіі наагул. Дык спынюся крыху на гэтым, хай ніжэйпаданае й ня зусім мо вяжацца з тэмаю маіх успамінаў.*

*Усе, хто ведаюць савецкія ўмовы, зразумеюць, што пісьменнік, паэта, маляр, музыка ў СССР ня можа ня браць накіданыя яму сілком савецкія тэмы ці ня пісаць зусім, каб не загубіць жыцьцё. Ува ўсім СССР ня знойдзецца ніводнага, хто б мог рабіць інакш /Шчаглоў тут, дзякуй Богу, памыляецца. —* ***Г. К.*** */. Пісаў савецкія вершы й Купала. Але як? Крытыка, нават і савецкая, ці раз дакарала Купалу за няшчырасьць, несамастойнасьць ягоных савецкіх вершаў. Раўнуючы вершы Купалы, пісаныя ў да-савецкі пэрыяд, зь ягонымі савецкімі творамі, кожнаму кідаецца ў вочы, што апошнія вершы слабыя, вымучаныя, а не натхнёныя, як калісьці. Аднак і паміж савецкімі вершамі Купалы /праўда, іх зусім мала/ ёсьць запраўды паэтычныя й мастацкія рэчы. Чым гэта тлумачыцца? На маю думку, тут колькі прычынаў.*

*Купала перш за ўсё быў паэтам таленавітым, песьняром з Божае ласкі, працэс паэтычнае творчасьці быў у яго ў крыві. Ён быў таксама прафэсійным паэтам, а не аматарам. Усё гэта не магло ня мець уплыву на тое, што Купала быў прымушаны пісаць. Па другое, і гэта, думаю, важнейшае, хай дагэтуль і не дасьледаванае пытаньне — Купала, змушаны жыць у панурай савецкай запраўднасьці, уцякаў часта да краіны ілюзорнасьці, уяўнасьці. Ня толькі што лаяльны, але наважна варожы да савецкае ўлады, ён мусіў чымсьці жыць, дыхаць. Калі перад Купалам узьнікалі накіданыя яму тэмы савецкае бацькаўшчыны, савецкае моладзі, дык слова «савецкае» паступова занікала ў ягонай фантазіі й заставалася паняцьце тае бацькаўшчыны, тае моладзі, што былі для яго сваімі, роднымі, якія ён адно патрапіў уявіць сабе. Ілюзія, уяўнасьць рэчаіснасьці натхняла тады Купалавую паэтычную ліру. Яна ж давала яму моц цярплівасьці, трываньня, сілу да жыцьця й тыя драбочкі чалавечае радасьці, уцехі, без якіх немагчыма жыць чалавеку, а тым болей мастаку. Гэтаксама, адно пры дапамозе ілюзорнасьці, можа жыць засуджаны на вечнае паняволеньне бядак ці замкнёная за кратамі ахвяра. І яшчэ адно: ці можна ўважаць Купалу савецкім, калі паэтам і нацыянальным героем ён стаўся гады перад савецкім паняволеньнем? Гады перад тым, як бальшавікі апанавалі Купалаву радзіму й народ, ён ужо сказаў усё сваё найбольшае й найпатрэбнейшае, і сказаў моцна, грымотна, як ніхто. Ці можна ўважаць Купалу савецкім, калі самыя Саветы блізу да 1939 году, значыцца, якія пару год да ягонае сьмерці, уважалі Купалу буржуазным нацыяналістам ці ў лепшым выпадку тым, што трапіўшы быў пад іхны ўплыў, хто апынуўся быў у іхным палоне?».*

Кампазітар Мікола Шчаглоў да вайны быў вядомы як аўтар славутай «Кантаты пра Сталіна». На эміграцыі ён перастаў быць Шчагловым, стаў Куліковічам /прозвішча маці, — а Б. Сачанка блытае, пішучы, быццам «Шчаглоў» — псеўданім/.

Нават калі б Куліковіч свае меркаванні пра «ілюзорнасць» савецкіх натхненняў Купалы **«пазычыў»** Купалу, адкалупнуўшы з уласнай душы, — абмінаць іх не варта. Бо гэта — прызнанне асобы мастацкага менталітэту, якой давялося насёрбацца калабаранцтва і «падсавецкага», і «падфашысцкага», двойчы, з абедзвюх няўмольных таталітарных лавін.

Не дагнала Купалу лавіна другая. Пад ёй заставалася маці. Як — засталася? Чаму? Нават «міфа» няма. Мо таму, што рэальнасць у гэтым выпадку сама выглядае, як міф: сын і маці, як змоўшчыкі, аднachасова пайшлі на той свет. Пераcталі «калабаранцтваваць»?..

Мы не гатовыя жыць не па міфах, як спелая нацыя. Мы гадаваліся ў сацрэалізме.

Калі ж пасталеем?..

### Анонс

# СЯБРЫНА ЯЎРЭЙСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Ужо больш шасцісот год жывуць на беларускіх землях яўрэі. У поўнай меры падзяліўшы лёс беларусаў праз усе пакручастыя сцяжыны супольнай гісторыі, некалі квітнеючае тутэйшае яўрэйства моцна пацярпела ад нацысцкага генацыду Другой сусветнай вайны, а таксама ад савецкай асіміляцыйнай практыкі. Супольная шматвекавая гісторыя, узаемныя ўплывы і набыткі культурнага супрацоўніцтва да нядаўняга часу заставаліся скарбам, схаваным як ад беларусаў, так і ад яўрэяў. Пэўная ўзаемаізаляванасць у выніку русіфікацыйнай палітыкі імперскай і савецкай уладаў, брак культуральных і навуковых кантактаў не спрыялі лепшаму выкарыстанню ўзаемнай культурнай спадчыны, ведам пра сябе і суседзяў, разуменню паміж беларусамі і яўрэямі.

Таму дзеля прадаўжэння справы, пачатай выдатнымі дзеячамі абедзвюх культур, сярод якіх Змітрок Бядуля і Антон Луцкевіч, Шмуэль Нігер і Янка Купала, Мойша Кульбак і Янка Станкевіч, — неабходны захады па ўсталяванні больш рэгулярных і плённых кантактаў паміж навукоўцамі і дзеячамі культуры.

У сувязі з гэтым пры Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны ствараецца суполка, якая будзе падтрымліваць намаганні беларускіх навукоўцаў па вывучэнні яўрэйскай культуры на Беларусі і беларуска-яўрэйскіх культурных сувязяў, спрыяць супрацоўніцтву ўсіх, хто цікавіцца нацыянальнымі ўзаемасувязямі.

Існуючыя ўжо пры Цэнтры імя Ф. Скарыны Літоўска-беларускае задзіночанне, Сябрына польскай культуры, Беларуская асацыяцыя ўкраіністаў паказалі, што канцэнтрацыя намаганняў па пошуку сумесных духоўных набыткаў, вывучэнне гісторыі культурных зносін і пошукі плённага супрацоўніцтва народаў праз веданне адзін аднаго даюць абнадзейваючыя вынікі ў справе разумення культурных патрэб народа, падтрымкі інтэлектуальных памкненняў і ўрэшце — будаўніцтва сапраўды дэмакратычнай Беларусі як часткі еўрапейскай культурнай прасторы.

Ініцыятары стварэння сябрыны яўрэйскай культуры бачаць яе мэту ў дапамозе інтэлектуальным сілам беларусаў і яўрэяў у ламанні старых стэрэатыпаў, спробе стварыць асяродак, у якім праз свабодны абмен думкамі, дыскусіі, супольныя даследчыя праекты і сумесныя культурныя і навуковыя імпрэзы яўрэі і беларусы змаглі б праз непасрэдныя кантакты паразумецца і стварыць падставы для гарманічнага і ўзаемакарыснага развіцця культуры на Беларусі.

Мы заклікаем навукоўцаў, тых, хто мае свае ідэі і сваё бачанне будучых узаемаадносін беларусаў і яўрэяў, адгукнуцца на нашу прапанову аб стварэнні беларускай сябрыны яўрэйскай культуры. Адным з першых мерапрыемстваў сябрыны можа быць удзел у навуковай канферэнцыі «Беларуска-яўрэйскае гістарычна-культурнае ўзаемадзеянне: гісторыя, сучаснасць, будучыня», якую наладзіць Цэнтр імя Ф. Скарыны ў маі 1994 года.

Арыентацыйная дата ўстаноўчага сходу — 18 лістапада 1993 г., у будынку Цэнтра імя Ф. Скарыны /Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15/ а 16-ай гадзіне. Тэлефон для даведак: 20-51-57.

**Віталь ЗАЙКА,**
**навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны**

### Друк

# «БЕЛАРУСКАЯ МІНУЎШЧЫНА»: ЧАРГОВЫ НУМАР

Пабачыў свет другі нумар гісторыка-публіцыстычнага ілюстраванага часопіса «Беларуская мінуўшчына». Выданне пачынае набываць свой твар. Галоўны рэдактар «БМ» А. Андруховіч выступае з роздумам «Да незалежнасці — праз рэферэндум!». Розныя аспекты нацыянальнай гісторыі закранаюцца ў артыкулах Г. Штыхава «Вытокі беларускай народнасці», М. Ермаловіча «Збіраў землі беларускія Новагародак», Х. Крываноса «З варагаў пайшлі суровыя мужы», У. Арлова «Гісторыя Беларусі: год за годам».

М. Дубровін запрашае ў Нясвіж — «Сівая даўніна Нясвіжа». З іншых матэрыялаў нельга не назваць «Зямля і воля» М. Дзелянкоўскага, «Хто знішчыў сялянскую «Грамаду»? Л. Герасімава, «Мінскае гета: схаваная праўда» Г. Купрэевай, «Шчаслівы выпадак, ці Недагляд НКУСа?» У. Адамушкі і Н. Івановай, «Скарынаўка» /пра бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане/ А. Ляднёвай...

# «ПЕРШАЦВЕТ», N 10

Гэты нумар часопіса спараджае згадкі: год назад, у кастрычніку 92-га, выйшаў яго першы, а лепш сказаць — пробны нумар. З гэтага ж года «Першацвет» /часопіс маладых, дакладней — самых маладых літаратараў, так званых пачаткоўцаў/ выходзіць рэгулярна, штомесяц, і вось перад намі апошні, кастрычніцкі нумар. Чым ён адметны?

Нумар працягвае першацветаўскую традыцыю /так, ужо традыцыю!/ абавязкова прадстаўляць новыя імёны пачаткоўцаў — як у прозе, так і ў паэзіі. Тут — гэта Вольга Гурыновіч, Таццяна Запека, Альгерд Бахарэвіч, Вячаслаў Статкевіч і Таццяна Каваленка. А побач з імі вядомыя па публікацыях у «Чырвонцы» і «Першацвеце» Віктар Аніскевіч, Мілана Шушкевіч, Ніна Загарэўская, Алесь Ветах, Тамара Мазур, Ірына Хадарэнка, Алесь Паплаўскі. Шчыра раю чытачам не абмінуць іх творы.

Ёсць у нумары і сюрпрыз. Звязаны ён з імёнамі Віктара Шніпа і Людмілы Рублеўскай. Што за сюрпрыз, спытаеце? Пакуль што скажу толькі, што гэтым разам яны спрабуюць выявіць сябе... не ў паэзіі. Разгадка — на старонках часопіса.

У першацветаўскай «Гасцёўні» — Уладзіслаў Рубанаў і Міхась Скобла.

Змястоўныя, палемічныя крытычныя матэрыялы нумара. Ці здатны час загаіць раны душы? Ці не з'яўляецца сённяшняя школа сапраўдным пеклам для дзіцяці? Што штурхае чалавека на самагубства? Подзвіг ці слабасць — яно? Змрочным прывідам альбо светлай знічкай застанецца вобраз Сяргея Палуяна ў нашай памяці? Пра гэта разважае Юлія Алесніна ў артыкуле «Трагедыя душы». З нагоды 110-годдзя з дня народзінаў Вацлава Ластоўскага Алесь Пашкевіч друкуе артыкул «Сейбіт святла», прысвечаны літаратурнавыдавецкай дзейнасці славутага беларуса. «Што такое «сталасць паэта»? І што для нас паэзія пакалення Васіля Зуёнка?» — на гэтыя і іншыя пытанні спрабуе адказаць у сваіх нататках на палях кнігі вершаў В. Зуёнка «Чорная лесвіца» Алесь Палынскі.

Пра тое, што не позна пачаць пісаць і ў шэсцьдзесят, сведчыць публікацыя вершаў 71-гадовай Надзеі Стафанаўны Ярмак пад рубрыкай «Народнае». Шаноўную аўтарку прадстаўляе чытачам галоўны рэдактар часопіса Алесь Масарэнка.

Завяршае нумар «Жароўня» з гумарэскай Яраслава Нікіціна «Візітка».

**Мікола ВІЧ**

# ПАВУЧЫЦЦА Б У БРАСЛАЎЧАН?!

Цяпер шмат гаворыцца пра неабходнас больш дэталёвага вывучэння гісторыі асс ных раёнаў. Дык вось, у гэтай важнай спра прыклад паказваюць на Браслаўшчыне. маі наступнага года мясцовы гісторык краязнаўчы музей мяркуе правесці навуковую канферэнцыю «Браслаўскія чытанні» /дарэчы, трэцюю па ліку/. Да ўсяго абяцае тэзісы ўсіх дакладаў апублікаваць. А кал б нешта падобнае рабілі краязнаўчыя музеі і ў іншых раёнах? Глядзіш, чарговыя тамы гістарычных хронік «Памяць» сталі б багацейшымі на цікавыя матэрыялы з мінуўшчыны.

А пакуль... Пакуль Браслаўскі музей прымае заяўкі ад жадаючых прыняць удзел у чытаннях. Адначасова паведамляе, што кансультацыі па ўсіх пытаннях можна атрымаць у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі ў Людмілы Уладзіміраўны Дучыц. Пакой — 306, тэл. 39-48-93.

